ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 27 (2429) 20 ліпеня 1995 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

**УПЕРШЫНЮ! НА СТАРОНКАХ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ" БУДУЦЬ ДРУКАВАЦЦА РАЗДЗЕЛЫ З НЕВЯДОМАГА НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ РАМАНА "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ" НАШАГА СЛАВУТАГАГА ЗЕМЛЯКА, ПІСЬМЕННІКА Сяргея ПЯСЕЦКАГА**

## ПРЫВІТАННЕ АД ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ

Яшчэ ў міжваенны час на літаратурным небасхіле Еўропы нечакана ўзышла зорка, імя якой было -- Сяргей Пясецкі. Узышла нечакана не толькі для тамтэйшых "астраномаў"-літаратуразнаўцаў, спецыялістаў па раманах ды вершах, але для ўсёй чытацкай публікі.

Зорка тая ўзышла найперш у Польшчы. Бо першыя раманы невядомага аўтара пісаліся і выдаваліся там. І такой бяды, што мову Славацкага ды Канапніцкай малады празаік пачаў вывучаць у польскіх турмах Равіча, Каранова, урэшце на Святым Крыжу. (Згодна з першапачатковым прысудам віленскага палявога суда, Сяргей Пясецкі наогул быў прыгавораны да пакарання смерцю, потым гэты вырак змянілі на 15-гадовае турэмнае зняволенне).

15 гадоў пад крыжам за "грахі маладосці".

Менавіта ў такіх нялюдскіх умовах, далёкіх ад утульных літаратурных пенатаў, маладзён пачаў пісаць "раманы-ўспаміны" пра мінулае бурнае жыццё і той пакручасты час, калі рэвалюцыйныя ды ваенныя віхуры 1914--1921 гадоў ламалі не толькі лёсы асобных людзей, але цэлых народаў і нацый. І пісаў найперш, пра што сведчаць ягоныя кнігі, перакладзеныя на дзесяткі еўрапейскіх моў. Апроч роднай, беларускай.

Так, Сяргей Пясецкі -- наш зямляк. Нарадзіўся ён 1 красавіка 1899 года ў мястэчку Ляхавічы Баранавіцкага павета (паводле некаторых пасведчанняў, пададзеных у свой час самім Пясецкім, дата нараджэння 1 чэрвеня 1899 -- недакладная, гэтаксама, як і іншыя, напрыклад, 1901 год). Нарадзіўся Сяргей няшлюбным сынам пакаеўкі Клаўдзіі Кукаловіч ды мясцовага начальніка пошты Міхала Пясецкага (як пішуць цяпер польскія літаратуразнаўцы, "у сям'і абрусеплага паляка"). Да 11 гадоў жыцця Сяргейка настаў насіў матчынае прозвішча, пакуль бацька не адабраў сына ў маці. (Рэха "шчанячых гадоў маленства" пазней праб'ецца ў аповесці С.Пясецкага "Яблычка").

Праваслаўны бацька аддаў яго ў расійскія гімназіі. Напачатку былі Мінск і Бабруйск, потым навальніца першай сусветнай закінула падлетка ажно ва Уладзімір над Клязьмай. Ці не там будучы пісьменнік з еўрапейскім імем упершыню паспытаў турэмную баланду: за збіццё інспектара гімназіі Сяргея засадзілі ў турму для непаўналетніх. Адтуль юнак уцёк і, паводле ўласнага вызначэння, "ускочыў у вір авантурнага жыцця і рэвалюцый".

Жыццёвыя пуцявіны прывоядзь Пясецкага ў Маскву, дзе ён знаёміцца з беларускім нацыянальна-культурным рухам. Менавіта там, а не на Радзіме.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## ПАМЯЦІ КРАЯЗНАЎЦА Данілы ВАСІЛЕЎСКАГА



Недзе на пераломе 60--70-х гадоў я працаваў над кнігай пра аўтарства паэмы "Тарас на Парнасе". Высвятлілася, што за паўстагоддзя да мяне гэтым самым пытаннем шмат займаўся апантаны краязнавец, гісторык, літаратуразнавец Даніла Мінавіч Васілеўскі. Аўтарам знакамітай паэмы лічыў ён удзельніка паўстання 1863 года віцябляніна Арцёма Вярыгу-Дарэўскага.

## "ПАСЫЛАЮ ВАМ КАРТАЧКУ..."

З вялікай цікавасцю я чытаў-перачытваў змястоўныя артыкулы Васілеўскага далёкага 1929 года: "Паэма "Тарас на Парнасе" ў краязнаўчым асвятленні" (часопіс "Наш край", N 5), "Арцём Вярыга і яго літаратурна-грамадская чыннасць" ("Полымя", N 6). Захацелася даведацца як мага болей пра свайго папярэдніка, ды ніхто толкам пра яго лёс нічога не мог сказаць.

**НА ЗДЫМКУ: Д. ВАСІЛЕЎСКІ ў маладыя гады.**

(Працяг на 7-й стар.).

**АЛЬТЭРНАТЫВА - КАМЕРЦЫЙНАЯ АДУКАЦЫЯ**

## ДЗЯРЖАВЕ - ВЫДАТНЫХ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ

Нас так доўга вучылі ганарыцца тым, што ў савецкай краіне кожны можа бясплатна скончыць школу, універсітэт ці інстытут, што сёння платная адукацыя ўспрымаецца многімі як асабістая абраза. Сапраўды, навошта плаціць грошы за тое, што можна атрымаць задарма? Між тым, камерцыйнае навучанне зараз адыгрывае вялікую ролю ў жыцці любой дзяржавы, бо ў рэшце рэшт, яго мэта -- павышэнне інтэлектуальнага патэнцыяла нацыі, які з'яўляецца асноўным багаццем кожнага грамадства. Пры гэтым дзяржава пазбаўлена неабходнасці траціць грошы на адукацыйныя мэты, атрымліваючы высакакласных спецыялістаў, а для маладых людзей, што не прайшлі па конкурсу ў дзяржаўную ВНУ, -- гэта дадатковая магчымасць атрымаць вышэйшую адукацыю. І яшчэ адна вельмі важная дэталь: у апошні час у ВНУ ідзе скарачэнне навучэнцаў і прафесарска-выкладчыцкага саставу, а камерцыйныя навучальныя ўстановы даюць магчымасць захаваць залаты фонд нашай педагогікі, прадаставіць работу высокакваліфікаваным спецыялістам, якія ідуць у гэтую галіну дзейнасці з вялікай навукі.

Адным з такіх ВНУ з'яўляецца створаны ў 1993 годзе Беларускі камерцыйны універсітэт кіравання, амаль што самая буйная недзяржаўная вышэйшая навучальная ўстанова ў рэспубліцы. Галоўная мэта існавання універсітэта -- падрыхтоўка спецыялістаў у галіне кіравання, эканомікі, фінансаў, іх прававое забеспячэнне, спрыянне фарміраванню кіруючага патэнцыялу рэспублікі. На факультэтах кіравання, міжнародных эканамічных адносін, правазнаўства і адзіным у рэспубліцы Польскім інстытуце можна вывучыць як традыцыйныя эканамічныя спецыяльнасці, так і модныя, і патрэбныя зараз маркетынг, менеджмент, міжнародныя эканамічныя адносіны, камерцыйная дзейнасць і правазнаўства. Арыентацыя на веды і прафесіі, якія зараз карыстаюцца найбольшым попытам і дазваляюць маладым людзям максімальна рэалізаваць свае магчымасці і дабіцца поспеху -- агульная рыса ўсіх камерцыйных навучальных устаноў.

Як правіла, тут выкладаюць дысцыпліны, якія не заўсёды можна знайсці ў дзяржаўных ВНУ, ці даюць веды, зарыентаваныя на канкрэтныя патрабаванні сённяшняга дня.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ПАМЯЦІ АХВЯР БАЛЬШАВІЗМУ



**Кожны год у адзін з летніх дзён на ўскраіне Чэрвеня збіраюцца людзі, каб аддаць даніну памяці ахвярам бальшавіцкага тэрору, загінуўшым тут у 1941 годзе. Тады праз гэты маленькі беларускі гарадок ахоўнікі савецкіх турмаў гналі на ўсход калоны вязняў, спяшаючыся пазбегнуць сустрэчы з фронтам, што набліжаўся. Уначы на ўскраіне Чэрвеня загрымелі стрэлы: пачалася бязлітасная расправа з безабароннымі вязнямі.**




**Прайшла такая жалобная цырымонія памяці ахвяр і сёлета. На месцы расстрэлу адбылося набажэнства, гучалі ўспаміны былых вязняў сталінскіх турмаў. Да магіл сваіх землякоў разам з беларусамі прыйшлі палякі, літоўцы.**

**НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі сумнай цырымоніі.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# ДЗЯРЖАВЕ — ВЫДАТНЫХ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Так, у яшчэ адной недзяржаўнай камерцыйнай навучальнай установе -- Міжнародным недзяржаўным інстытуце працоўных і сацыяльных адносін можна атрымаць кваліфікацыю па найдэфіцытнейшай зараз спецыяльнасці -- міжнароднаму камерцыйнаму праву, а таксама гаспадарчаму праву і натарыяту. І гэта пры тым, што юрыдычны факультэт БДУ, які даваў веды па гэтых накірунках, зараз, як і раней, лічыцца самым жаданым, але і самым недасягальным факультэтам ва ўсім Беларускім дзяржаўным універсітэце. Аб узроўні выкладання ў камерцыйных ВНУ гаворыць тое, што ў Міжнародным недзяржаўным інстытуце працоўных і сацыяльных адносін працуюць два акадэмікі, восем прафесараў -- дактароў навук, сорак шэсць кандыдатаў навук, а ў Беларускім камерцыйным універсітэце кіравання навучанне па сямі спецыяльнасцях і адзінаццаці спецыялізацыях забяспечваюць дваццаць тры дактары і сто дваццаць восем кандыдатаў навук, сярод якіх ёсць вядомыя вучоныя і педагогі. Дарэчы, наяўнасць пры універсітэце Польскага інстытута дае магчымасць пастаянна запрашаць у Мінск з лекцыямі польскіх выкладчыкаў і самім пастаянна ездзіць у суседнюю краіну ўдасканальваць веды. У гэтым -- адзіным у рэспубліцы польскім інстытуце акрамя іншых дысцыплін вывучаецца польская мова і гісторыя Польшчы, студэнтамі і выкладчыкамі дзвюх краін пастаянна праводзяцца сумесныя канферэнцыі і семінары, ідуць перамовы аб тым, каб студэнты універсітэта праходзілі практыку ў польскіх вышэйшых навучальных установах, што дасць магчымасць рыхтаваць будучых бізнесменаў і эканамістаў, якія будуць добра ведаць асаблівасці суседняга польскага рынку. У такіх спецыялістаў будзе канкрэтнае і дакладнае ўяўленне аб знешнеэканамічнай дзейнасці, яны будуць на практыцы вывучаць структуры і метады кіравання іншых фірм і іншых форм уласнасці. Карацей кажучы, камерцыйная адукацыя (а дакладней, яе накірункі) вельмі добра знаходзіць і запаўняе спецыялістамі новага ўзроўню тыя адукацыйныя і камерцыйныя нішы, якія сёння ствараюцца ў нашым грамадстве пад уздзеяннем хай сабе і неарганізаванага, але ўсё ж рынку. Так, у рэспубліцы паступова расце колькасць сумесных прадпрыемстваў і замежных фірмаў, пашыраецца знешнеэканамічная дзейнасць айчынных прадпрымальнікаў. Зразумела, што ў гэтых умовах расце попыт на добра кваліфікаваных перакладчыкаў, якія не прапускаюць незнаёмыя словы і не "інтэрпрэтуюць" да непазнавальнасці сказанае партнёрамі. Менавіта прафесійных бізнес-перакладчыкаў англійскай і нямецкай моваў рыхтуе створаны ў рэспубліцы два гады таму Эканоміка-лінгвістычны універсітэт. Адначасова з замежнымі мовамі (і на іх) тут выкладаюць менеджмент, маркетынг, бухгалтарскі ўлік, гаспадарчае права і іншыя дысцыпліны, што дае магчымасць пасля заканчэння універсітэта распачаць уласную справу, уладкавацца працаваць на буйное прадпрыемства ў якасці камерцыйнага дырэктара, рэкламнага агента ці менеджэра.

І вось мы падышлі да самага цікавага моманту — платы за адукацыю. Ва ўсіх беларускіх камерцыйных навучальных установах яна знаходзіцца на прыкладна аднолькавым узроўні, недзе каля шасцідзесяці-сямідзесяці долараў у месяц на дзённым аддзяленні і ад чатырохсот да двухсот пяцідзесяці ў год пры ўмове навучання на вячэрнім ці завочным аддзяленнях. Нават пры сённяшнім складаным эканамічным становішчы гэтыя сумы не падаюцца цалкам нерэальнымі, тым больш, што ў даным выпадку размова ідзе аб прамых інвестыцыях ва ўласную будучыню, і дывідэнды ад такіх укладанняў можна будзе атрымліваць усё астатняе жыццё. Прычым, многія навучэнцы камерцыйных навучальных устаноў яшчэ падчас вучобы пачынаюць зарабляць больш за сваіх выкладчыкаў. Справа ў тым, што, напрыклад, студэнты Эканоміка-лінгвістычнага універсітэта ў час летніх канікулаў прапанавалі свае паслугі ў якасці перакладчыкаў некаторым фірмам. З пачаткам заняткаў практычна ніхто не кінуў гэтую працу, і ўжо сёння студэнты маюць магчымасць самастойна аплачваць сваё навучанне. Дарэчы, многія з іх такім чынам уладкоўваюць сваю будучыню: фірма, прыгледзеўшыся да добрага работніка, потым з задавальненнем бярэ яго на працу.

Аднак, нягледзячы на тое, што, як было ўказана раней, дзяржава атрымлівае выдатных спецыялістаў, не ўклаўшы ані капейчыны ў іх падрыхтоўку, яна, відаць, усё ж такі не зацікаўлена ў камерцыйным навучанні. Як інакш растлумачыць, што прыкладна 51 працэнт ад сваіх прыбыткаў гэтыя вучэбныя ўстановы аддаюць той жа дзяржаве ў якасці падаткаў і аплаты камунальных паслуг? Ніякіх ільгот у выглядзе, напрыклад, крэдытаў для навучэнцаў ці вызвалення спонсараў і мецэнатаў ад падаткаў не існуе. Карацей кажучы, хочаце -- працуйце, хочаце -- не, нам жа да вас няма ніякай справы. Вось і давялося недзяржаўным ВНУ стварыць сваю асацыяцыю, якая зараз і займаецца вырашэннем іх праблем. Напрыклад, такой, як наданне дыпломам, што выдаюць камерцыйныя ВНУ, такога ж статуса, як і тым, што атрымліваюць выпускнікі дзяржаўных навучальных устаноў. Зараз гэта магчыма толькі пасля пераздачы экзаменаў дзяржаўнай камісіі.

Цікава, што хлопцаў, якія паступаюць на вучобу ў камерцыйныя навучальныя ўстановы, вызваляюць на тэрмін вучобы ад службы ў арміі.

У адным артыкуле падрабязна не расказаць аб цалкам новай для нашага грамадства з'яве. Адно можна сказаць дакладна: альтэрнатыўная камерцыйная адукацыя ў Беларусі існуе і абавязкова будзе развівацца далей. Магчыма, ёсць сэнс абмяркоўваць яе якасць у кожным асобным выпадку, але ўвогуле адно тое, што ў абітурыентаў ёсць выбар паміж дзяржаўнай і недзяржаўнай навучальнай установай, паміж традыцыйнай і альтэрнатыўнай адукацыяй -- ужо станоўчая з'ява. Ці доўга яна зможа заставацца такой, ці не спасцігне яе лёс шматлікіх іншых добрых пачынанняў у грамадстве -- на гэтыя пытанні зможа адказаць толькі час.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## ВАЙНА: ШТО НАМ РЫХТАВАЛІ НАЦЫСТЫ

# ВЕДАЦЬ І ПОМНІЦЬ

Існавалі чатыры такія аператыўныя групы -- "А", "Б", "Ц", "Д", і кожная з іх падпарадкоўвалася адной з армейскіх груп. Групе армій "Цэнтр" была нададзена айнзацгрупа "Б".

Айнзацгрупы падраздзяляліся на айнзацкаманды (аператыўныя каманды) і зондэркаманды (асобыя каманды). У абавязкі айнзацкаманд і зондэркаманд уваходіла бязлітаснае знішчэнне як мага большай колькасці людзей з прычыны забеспячэння бяспекі на захопленых тэрыторыях як у раёнах баявых дзеянняў, так і ў тыле.

У склад айнзацгрупы "Б", прыдадзенай групе армій "Цэнтр", уваходзілі зондэркаманда 7 "А", зондэркаманда 7 "Б", зондэркаманда 7 "Ц", айнзацкаманда 8, айнзацкаманда 9, самастойна дзеючая каманда "Масква" і атрад "Смаленск".

Важную ролю ў сістэме ваенна-фашысцкага акупацыйнага апарата на тэрыторыі "вобласці армейскага тылу", адыгрывала тайная палявая паліцыя (ГФП), састаўная частка вермахта, якая выконвала ваенна-паліцэйскія функцыі. У ГФП набіраліся супрацоўнікі гестапа, нямецкай паліцыі і іншых карных органаў.

Каманды ГФП, прыдадзеныя мясцовым камендатурам і ахоўным дывізіям, дзейнічалі ў кантакце з паліцыяй бяспекі і СД, палявой жандармерыяй. Найбольш цесныя кантакты ГФП трымала з органамі нямецкай ваеннай разведкі і контрразведкі -- абверам, які актыўна дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі.

Ваенная контрразведка вядомая на акупіраванай тэрыторыі Беларусі ў выглядзе абвергруп, якія размяшчаліся ў найбольш буйных гарадах і мелі пэўныя нумары. Так, у Гомелі дзейнічала абвергрупа 315, у Магілёве -- 316, у Оршы -- 310, у Лідзе -- 304 і г.д.

У тыле армейскай групы "Цэнтр", а таксама на тэрыторыі генеральнай акругі "Беларусь" дзейнічалі добра ўзброеныя, спецыяльна абучаныя невялікія знішчальныя атрады, так званыя "ягдкаманды". Ствараліся яны воінскімі часцямі вермахта ці паліцэйскімі фарміраваннямі для барацьбы з невялікімі партызанскімі групамі, для расправы з насельніцтвам партызанскіх зон, для правядзення розных правакацыйных дзеянняў з мэтай кампраметацыі партызан.

Прынцыповай розніцы паміж ваеннымі і грамадзянскімі акупацыйнымі ўладамі не было. Існавала чыста функцыянальнае размежаванне паміж імі. Усіх іх аб'ядноўвала агульная мэта -- устанаўленне рэжыму крывавага тэрору, незвычайнага самавольства і грабяжу. Усе яны, выкарыстоўваючы самыя вытанчаныя, жорсткія і каварныя сродкі знішчэння савецкіх людзей старанна выконвалі планы фашысцкага вярхоўнага кіраўніцтва і праводзілі ў жыццё нацысцкую палітыку генацыду і "выпаленай зямлі" на часова акупіраванай тэрыторыі Беларусі.

Разам з палітыкай фізічнага знішчэння насельніцтва гітлераўцы планавалі правесці шэраг мер, якія скарацілі б біялагічны патэнцыял беларускага народа і тармазілі натуральны прырост насельніцтва. Размова ішла аб падтрыманні на самым высокім узроўні смяротнасці сярод мясцовага насельніцтва, аб ліквідацыі медыцынскага абслугоўвання. Мелася на ўвазе правядзенне і шэрагу іншых мер, адпраўка людзей на катаржныя работы ў фашысцкую Германію і да т.п. Па задумах гітлераўцаў, знішчэнне народа павінна было праводзіцца з выкарыстаннем шырокага арсенала розных сродкаў і метадаў знішчэння.

План "Ост" прадугледжваў пакінуць для наступнага анямечвання і выкарыстання ў якасці рабочай сілы да 25 працэнтаў беларусаў. Гэта насельніцтва павінна было знаходзіцца на становішчы рабоў і пазбаўлялася ўсялякіх палітычных і сацыяльных правоў. 75 працэнтаў насельніцтва Беларусі падлягала высяленню, але ні для кога не было сакрэтам, што пад тэрмінам "высяленне" гітлераўцы разумелі акцыі фізічнага знішчэння людзей. Розенберг напярэдадні нападу Германіі на Савецкі Саюз цынічна заявіў, што тэрыторыя Беларусі з'явіцца цэнтрам сканцэнтравання ўсіх сацыяльна небяспечных элементаў. Ён разлічваў ператварыць акупіраваную тэрыторыю Беларусі ў вялікі лагер смерці, у месца ссылкі і знішчэння, з пункту гледжання гітлераўцаў, "непажаданых элементаў" з Латвіі, Літвы, Эстоніі, а таксама з многіх дзяржаў Еўропы.

Масавае знішчэнне насельніцтва адбывалася самымі варварскімі метадамі і сродкамі: расстрэлы і шыбеніцы, газавыя камеры і крэмацыйныя печы, аўтафургоны-душагубкі і кастры, голад і холад, распаўсюджанне эпідэмій, знясільваючая фізічная праца і г.д. Знішчалі людзей незалежна ад сацыяльнага становішча, узросту, полу, нацыянальнасці, незалежна ад таго, ці з'яўляліся яны ўдзельнікамі партызанскага і падпольнага руху, ці не.

Забойствы праводзіліся па пэўнай методыцы, былі аднатыпнымі, хаця здзяйсняліся ў розных месцах і рознымі забойцамі.

З пачатку вайны масавае знішчэнне людзей з прымяненнем нечувана жудасных і зверскіх форм знішчэння вялося пад выглядам барацьбы з партызанамі. Фашысцкія захопнікі разглядалі партызанскі рух як зручную нагоду для планамернага ажыццяўлення злачынных планаў "абязлюджвання" акупіраваных зямель. "Партызанская вайна, -- заявіў Гітлер на нарадзе 16 ліпеня 1941 года, -- дае нам магчымасць знішчаць усё, што паўстае супраць нас".

Па задумах гітлераўцаў, знішчэнне населеных пунктаў разам з жыхарамі павінна было навесці страх і жах на ўсёй часова акупіраванай тэрыторыі. Яны разлічвалі з дапамогай падобнай тактыкі пазбавіць партызан іх рэзерваў, апорных пунктаў, прадуктовых баз, падтрымкі з боку насельніцтва і тым самым затармазіць арганізацыю і разгортванне ўсенароднай барацьбы. "Для таго каб у зародышы задушыць незадаволенасць, неабходна пры першых жа выпадках неадкладна прымаць самыя рашучыя меры", -- патрабаваў фельдмаршал Кейтэль у сваім загадзе ад 16 верасня 1941 года.

І такія рашучыя меры прымаліся. Напрыклад, толькі з 6 верасня па 24 лістапада 1942 года ў раёнах Брэста, Пінска, Кобрына, Дзівіна, Маларыты, Бярозы Картузскай карнікамі былі расстраляны 44 837 чалавек.

Аб страшнай карціне масавага знішчэння мірнага насельніцтва ў вёсках Забалоцце і Выселкі сведчыць справаздача аднаго з камандзіраў роты 15-га нямецкага паліцэйскага палка капітана Пельса.

"Рота атрымала заданне знішчыць размешчаную на паўночны ўсход ад Макран вёску Забалоцце і расстраляць насельніцтва. Да роты былі прыкамандзіраваны: узвод Фрона з 9-й роты і 10 чалавек танкавага падраздзялення 10-га палка. 22 верасня 1942 года каля 18.00 1, 2 і 3-ці ўзводы дасягнулі на сваіх машынах заходняй ускраіны Макран; тут да роты далучыліся таксама сілы, прысланыя для падмацавання. Пасля кароткага высвятлення абстаноўкі і размеркавання сіл, у 23 гадзіны 00 хвілін, рота выступіла ў напрамку да Забалоцця...

...Усе жыхары былі падзелены на тры групы і расстраляны на месцы пакарання... Пасля паўторнага вобыску было выяўлена 5 чалавек, іх выцягвалі з іх сховішчаў і тут жа на месцы расстрэльвалі... Вынікі аперацыі наступныя: расстраляна 289 чалавек, спалены 151 двор, угнана 700 галоў рагатай жывёлы, 400 свіней, 400 авечак і 70 коней".

З 9 200 населеных пунктаў, разбураных і спаленых гітлераўцамі ў Беларусі ў час Вялікай Айчыннай вайны, звыш 5 295 фашысты знішчылі разам з усім ці з часткай насельніцтва ў перыяд карных аперацый. З агульнай колькасці 5 295 вёсак звыш 3 працэнтаў знішчана ў 1941 годзе, 16 працэнтаў -- у 1942-м, 63 працэнты -- у 1943-м і 18 працэнтаў -- у 1944 годзе.

З мэтай масавага знішчэння людзей на акупіраванай ворагам тэрыторыі Беларусі было створана звыш 260 лагераў смерці, іх філіялаў і аддзяленняў.

Для маскіроўкі іх называлі "лагеры ваеннапалонных", "штрафныя працоўныя лагеры", "лагеры прымусовай працы", "перасыльныя лагеры" і г.д. Адрозненне паміж імі было толькі ў тым, каму яны падпарадкоўваліся. Адны з іх знаходзіліся ў распараджэнні узброеных сіл (вермахта), іншыя падпарадкоўваліся паліцыі бяспекі і службе бяспекі (СД). Аднак усе яны з'яўляліся лагерамі смерці, зброяй масавага знішчэння людзей. Па далёка не поўных даных, у лагерах смерці на тэрыторыі Беларусі нацысты знішчылі звыш 1,4 мільёна чалавек.

У Мінску і яго наваколлі гітлераўцы стварылі цэлую сістэму лагераў смерці і іх філіялаў. Цяжка ўстанавіць дакладна колькасць людзей, якія загінулі ў гэтых лагерах, таму што апрача неверагодна вялікай колькасці расстраляных, забітых і памершых незлічоная колькасць спаленых. У акце Мінскай абласной камісіі па расследаванню і ўстанаўленню злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў і іх памагатых ад 13 жніўня 1944 года сказана: "Камісія па яшчэ не поўных даных лічыць, што ў Мінску і яго бліжэйшым наваколлі нямецка-фашысцкімі ўладамі і камандаваннем германскай арміі толькі ў абследаваных месцах знішчана савецкіх грамадзян 300 тысяч чалавек, не лічачы соцень тысяч грамадзян, спаленых у крэмацыйных печках".

Нечуваныя зверствы і жорсткасць чынілі гітлераўцы ў лагерах над ваеннапалоннымі. Аб іх утрыманні там можна меркаваць па стацыянарнаму лагеру ("Штатлаг N 352"), які знаходзіўся за пяць кіламетраў на паўночны захад ад Мінска каля вёскі Масюкоўшчына. Гэты лагер -- узор тыповых нацысцкіх лагераў смерці для ваеннапалонных. "Штатлаг N 352" пачаў функцыяніраваць з лета 1941 года. Усю тэрыторыю лагера гітлераўцы абнеслі ў некалькі радоў калючым дротам, умацаваным на цяжкіх бетонных слупах, вышыня якіх дасягала 3 метраў. Прастора паміж радамі дротавых загараджэнняў таксама перапляталася калючым дротам.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

Працяг. Пачатак у № 25—26.

## БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА

# ЧАЛАВЕК ЗНАКАМІТАГА РОДУ

НЯДАЎНА Мінск наведаў наш слынны зямляк са Злучаных Штатаў Амерыкі -- Мікола Прускі з жонкай Верай. Ён прывёз 10-тонны кантэйнер з лекамі і медыцынскім абсталяваннем -- гуманітарную дапамогу.

Упершыню пра Міколу Прускага мне давялося пачуць ад жонкі прафесара Якава Каламінскага Ады.

-- У 1991 годзе мой муж чытаў лекцыі аб наступствах Чарнобыля ў каледжы "Надзея" пад Нью-Йоркам. Пасля адной з іх да мяне падышоў невысокі, вельмі сціплы чалавек і запытаў: "Вы размаўляеце па-беларуску? -- і паволі дадаў: -- Я жыву ў Амерыцы пяцьдзесят год. Калі будзеце ў Гран-Рэпідсе, то зазваніце". Так мы пазнаёміліся з нашым земляком Міколам Прускім. Перад нашым ад"ездам у Мінск раптам пазваніў дырэктар шпіталя з Гран-Рэпідса, маленькага гарадка на поўначы штата Мічыган, доктар-псіхіятр Лорэнс Пробс і ад імя "Асацыяцыі ўрачоў за сацыяльную адказнасць" запрасіў нас застацца яшчэ на два месяцы. Мы з радасцю згадзіліся. Адразу ж па прыездзе пазванілі па тэлефоне, які пакінуў Мікола Прускі. На мілагучнай беларускай мове адказала яго дачка Аня і запрасіла ў госці. Ведаеце, у сталым узросце цяжка знайсці новых сяброў, а тут -- гэта беларуская сям"я з далёкай краіны стала для нас самымі блізкімі людзьмі. Мікола адкрыў для нас Амерыку. Гэта -- і знаёмства з універсітэтам Грэнвелі, з яго выдатнымі бібліятэкамі, мясцовай школай, якая зусім не падобная на нашыя. З мноствам людзей мы пазнаёміліся праз яго, Міколу Прускага, і ягоную жонку Веру, на якой трымаецца ўвесь дом, дзе ўсё зроблена з вялікім густам яе рукамі. Усе тут лічаць іх сваімі людзьмі. Больш сціплых, сумленных людзей я не ведаю. Нідзе не выдзяляцца, не звяртаць на сябе ўвагу, але ўсім аказваць дапамогу...

Цудоўна, калі на тваім жыццёвым шляху сустракаюцца такія беларусы. Відаць, мала хто ведае, што Мікола Прускі з роду Міцкевічаў.

-- Аб тым, што ў дваюраднай сястры Якуба Коласа ёсць сын, мы ведалі, але пазнаёміліся з ім толькі падчас яго першага прыезду ў Мінск у 1990 годзе, -- расказвае Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч. -- Мікола Прускі нарадзіўся ў вёсцы Мікалаеўшчына, яго бацька быў служачым у лясгасе. У 1939 годзе, падчас рэпрэсій, яго арыштавалі, але праз нейкі час адпусцілі. Праз год сям"я Прускіх выехала ў Германію, а потым пераехала ў Амерыку. Жонка Міколы таксама беларуска, родам з Беласточчыны. Маюць дзвюх дачок, Соню і Аню. Усё жыццё займаўся друкарскай справай, а цяпер мае свой прыватны станок, які, дарэчы, стаіць у яго доме на першым паверсе. На ім Мікола на свае грошы і невялікія ахвяраванні выдае газету "Беларускі дайджэст", а потым рассылае яе ў розныя краіны. ён і рэдактар, і выдавец. Акрамя гэтага, выдае кнігі беларускіх аўтараў. (Апошняя -- аповесць пра М. Багдановіча У. Глыбіннага).

І ніколі не забываецца на сваю далёкую радзіму. Працуючы кансультантам міжнароднай дабрачыннай фірмы, дзейнасць якой накіравана на дапамогу абяздоленым людзям, некалькі разоў дасылаў на Беларусь дабрачынныя гуманітарныя грузы...

Вось і цяпер. Ліпень 1995 года. Мы сустракаем Міколу Прускага, які прыехаў у Мінск пасля чарговай адпраўкі дзесяцітоннага кантэйнера з лекамі і медабсталяваннем. Упершыню з ім маладая, прыгожая і энергічная жонка Вера. Дзесяць працэнтаў ад кошту ґэтага грузу, поўны кошт якога склаў 280 тысяч долараў, быў аплачаны Прускімі і Анатолем Лук"янчыкам, таксама нашым земляком. Каштоўныя лекі, хірургічнае абсталяванне ў асноўным атрымалі Брэсцкая абласная і Стаўбцоўская бальніцы, частку -- бальніцы Мінска, адзенне -- дабрачынныя фонды "Сакавік" і "Промень надзеі".

-- Леваксін, які прымяняецца пры распаўсюджаным захворванні шчытападобнай залозы, вельмі нам патрэбны, -- гаворыць галоўны ўрач рэспубліканскага эндакрыналагічнага дыспансера Валянцін Салавей. -- Яго якраз у нас не было. А хворых у Беларусі сёння 100 000 чалавек, і палова з іх -- дзеці. Вельмі ўдзячныя спадару Прускаму і яго фірме за дапамогу.

Такія ж словы падзякі мы чулі і з іншых устаноў.

Час, праведзены на Радзіме, ляціць вельмі хутка, тым больш тыдзень, запоўнены сустрэчамі, карыснымі справамі. За гэты час Мікола Прускі пабываў у Міністэрстве аховы здароўя, дзе міністр спадарыня І. Драбышэўская пазнаёміла яго з сітуацыяй забеспячэння Беларусі лекамі і вельмі зацікавілася прапановамі аб далейшым супрацоўніцтве. Плённая сустрэча адбылася з рэктарам медінстытута Аляксеем Кубаркам, якому Прускі перадаў больш двухсот спецыяльных медыцынскіх выданняў на англійскай мове. Тут таксама ішла размова аб магчымых кантактах з амерыканскімі медыцынскімі навучальнымі ўстановамі. Прайшла цёплая сустрэча ў сядзібе ЗБС "Бацькаўшчына" са знаёмымі, якіх у яго так многа ў Беларусі. Не толькі дзелавыя, але і цёплыя сяброўскія адносіны звязваюць Прускага з Васілём Быкавым, Рыгорам Барадуліным, Пятром Краўчанкам і іншымі вядомымі людзьмі нашай краіны.

-- Дзейнасць спадара Прускага ў эміграцыі належным чынам яшчэ не ацэнена, -- сказаў адзін з іх. -- Але менавіта дзякуючы такім людзям, як Мікола Прускі, і жыве беларуская справа не толькі ў далёкіх і блізкіх замежных краінах, але і на нашай Бацькаўшчыне.

**Ніна ПЕТУХОВА.**

**МІНСКАЯ ЕПАРХІЯ Ў ПЕРЫЯД РЭПРЭСІЙ**

# ПРАЗ ПАКУТЫ — ДЗЕЛЯ ВЕРЫ

Прыгаворам ад 2 красавіка расстраляны протаіерэй Георгій Перапечын, які служыў у Пухавічах. Тады ж загінуў свяшчэннік Іаан Вячорка (с.Крываносы Старадарожскага раёна). Спіс гэты, вядома ж, далёка не поўны...

Пасля арыштаў, што прайшлі з 1929 па 1933 год, у Мінскай епархіі засталося крайне мала дзеючых цэркваў. Зачыненыя храмы былі ператвораны ў клубы, склады, магазіны, канюшні, і што толькі ні размяшчалі ў іх. Аднак, нягледзячы на страшныя ганенні, дзесяткі цэркваў усё яшчэ заставаліся адчыненымі і ў іх праводзіліся богаслужэнні.

У 1935 годзе адбыліся новыя буйныя арышты. У канцлагер быў накіраваны архіепіскап Феафан (Семяняка), пазней расстраляны там. З ім арыштавалі добра вядомых у Мінску протаіерэяў а.Іаана Зянюка і а.Уладзіміра Бірулю, а таксама вялікую колькасць прыхаджан. Храм у Козыраве спалілі.

У тым жа годзе волі пазбавіліся самачынны мітрапаліт Даніїл (Грамавенка), забраны АДПУ разам з абнаўленчымі свяшчэннікамі Св.Петрапаўлаўскага сабора, якія служылі яму. Летам 1936 года сабор узарвалі.

Але самыя лютыя ганенні выпалі на 1937 год. Амаль ніхто са свяшчэннікаў, арыштаваных у гэтым годзе, не застаўся ў жывых. Рэдка каму выносіўся прыгавор аб зняволенні ў канцлагер, а калі і выносіўся, то, як правіла, тэрмінам на 10 гадоў, гэта значыць фактычна пажыццёва.

28 ліпеня 1937 года ў Мінску закрылася апошняя праваслаўная царква горада -- храм Св. Марыі Магдалены на Старажоўцы. Служыўшыя ў ім епіскап Філарэт (Раменскі), прот. Стэфан Кульчыцкі, прот. Антоній Кіркевіч, іерэй Міхаіл Рубановіч, дыякан Уладзімір Лабач, дыякан Якаў Бараноўскі і шэраг прыхаджан былі арыштаваны і 1 лістапада 1937 года расстраляны.

Іх лёс раздзялілі вельмі многія пастыры. Назавём імёны некаторых з іх, успомніўшы тых, хто выканаў галоўную запаведзь Божую: "жизнь свою положив за други своя".

Гэта расстраляныя ў тым жа 37-м: а.Дзмітрый Паўскі (Мінск), а.Сергій Садоўскі (Койданава), а.Аляксандр Шалай (Блонь), а.Леанід Біруковіч (Брадзец), а.Іаан Варанец (Смілавічы), а.Уладзімір Зубковіч (Смалявічы), а.Міхаіл Савіцкі (Старобін), а.Іаан Панкратовіч (Чыжэвічы), а.Мікалай Васюковіч (Літвяны), а.Павел Пячэнка (Жыцін), а.Міхаіл Алышэўскі (Шацк), а.Уладзімір Рубановіч (да рэвалюцыі Вял.Ражан).

Скажам ім і яшчэ многім, каго мы не знайшлі: "ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!"

Ганенні "першай бязбожнай пяцігодкі" нанеслі Царкве страшны ўрон. На словах цяжка пераказаць беззаконне, якое тварылася тады...

І тым не менш, нягледзячы ні на што, паводле даных усесаюзнага перапісу, праведзенага ў 1937 годзе, 2/3 сельскага насельніцтва і 1/3 гарадскога ва ўмовах насілля і тэрору запісаліся веруючымі. У гэтым сэнсе бязбожная пяцігодка не ўдалася!

* * *

Эпілогам даваенных ганенняў на Царкву ў Мінскай епархіі з'явіліся падзеі 1938 года. Хваля арыштаў ужо ішла на спад, але яе ўплыў усё яшчэ адчуваўся. Тады адбыліся самыя апошнія (з вядомых нам) арышты асоб духоўнага звання з тымі ж жорсткімі прыгаворамі, што і ў папярэднім годзе.



У Мінску быў арыштаваны і расстраляны абнаўленчы мітрапаліт Пётр (Бліноў), які прыбыў незадоўга да гэтага з Сібіры. Адначасова расстралялі свяшчэнніка Юліяна Астроўскага, які служыў з ім.

Буйныя арышты ў 1938 годзе прайшлі ў Барысаве. Дзеючая там царква Св. Андрэя Юродзівага была закрыта, а яе настаяцель а.Іаан Мацкевіч расстраляны. Разам з ім расстралялі яшчэ восем чалавек, па сутнасці знішчыўшы прыход.

Летам 1939 года на тэрыторыі Мінскай епархіі перастала дзейнічаць апошняя праваслаўная царква, якая знаходзілася ў Бабруйску (на могілках), што ўваходзілі ў той час у межы епархіі.

На працягу наступных двух гадоў у былой епархіі нідзе не здзяйсняліся богаслужэнні. І некаму здавалася, што з Царквой Божай пакончана раз і назаўсёды. Але той, хто так думаў, -- жорстка памыляўся. Прыйшла вайна, і ў першыя ж яе дні ва Усходняй Беларусі, у тым ліку ў нашай епархіі, сталі адкрывацца праваслаўныя храмы. Людзі, змучаныя матэрыяльнымі нястачамі, неслі ў царкву самае дарагое, што ў іх было. Моладзь тысячамі прымала Святое Хрышчэнне, у купелі хрышчэнскай набываючы новае жыццё. За чатыры гады вайны ва Усходняй Беларусі адкрыліся сотні цэркваў. Гэта было паражэннем бязбожных уладаў, крахам іх даваеннай палітыкі рэпрэсій у адносінах да Праваслаўнай Царквы.

### ВАЙНА

Вайна абудзіла царкоўнае жыццё ва Усходняй Беларусі. Цэнтрам адраджэння гэтага жыцця стаў Мінск.

Кіруючыся меркаваннямі палітычнага характару, нямецкія акупацыйныя ўлады не перашкаджалі адкрыццю праваслаўных храмаў, раней закрытых бальшавікамі, разлічваючы такім чынам заручыцца падтрымкай мясцовага насельніцтва, якое ў пераважнай большасці негатыўна ставілася да бальшавікоў за праводзімую імі палітыку ў адносінах Праваслаўнай Царквы. Нямецкія фашысты, як і камуністы, не мелі асаблівых сімпатый да Царквы, але, разумеючы, які аўтарытэт яна мае ў вачах народа, не перашкаджалі яе дзейнасці ў тых рамках, якія былі выгадны ім з пункту гледжання палітычнай кан'юнктуры. Такія адносіны да Царквы выклікалі адкрыццё ва Усходняй Беларусі вельмі многіх храмаў.

У Мінску аднавілі сваю дзейнасць Спаса-Праабражэнская царква (што служыла кафедральнай), Св. Духава царква (былая манастырская), Св. Кацярынінская царква (на Нямізе), царква іконы Казанскай Божай Маці пры чыгуначным вакзале, царква Св. Мікалая ў Козыраве.

У арганізацыі царкоўнага жыцця веруючыя сутыкнуліся са значнымі цяжкасцямі. Ішла вайна, і яе подых адчуваўся на кожным кроку. Не хапала свяшчэннікаў, мелася вострая патрэба ў кадрах царкоўнаслужыцеляў.

Восенню 1941 года ў Мінск прыбылі мітрапаліт Панцеляймон (Ражноўскі) і епіскап Венедыкт (Бабкоўскі). Мітрапаліт Панцеляймон узначаліў Праваслаўную Царкву ў межах Усходняй Беларусі. Па яго благаславенню вельмі многае для адкрыцця храмаў зрабілі архімандрыт Серафім (Шахмудзь) і свяшчэннік Рыгор Кударэнка. У 1942--1943 гадах яны пабывалі ў Оршы, Віцебску, Магілёве, Гомелі і іншых месцах, і ўсюды з іх прыездам аднаўлялася, абуджалася ад нябыцця ранейшых гадоў царкоўнапрыходскае жыццё.

У лютым 1942 года мітрапаліт Панцеляймон быў адхілены ад кіравання царкоўнымі справамі. Апеку над імі ўзяў на сябе епіскап Філафей (Нарко), нядаўна пасвячоны ў архірэйскі сан. Ён адкрыў у Мінску пастырскія курсы. Такія ж курсы былі адкрыты ў Навагрудку, дзе служыў другі беларускі епіскап -- Афанасій (Мартос).

**Свяшчэннік Фёдар КРЫВАНОС.**

**Працяг. Пачатак у №№ 22—24,25—26.**

**НА ЗДЫМКАХ: айцец Уладзімір ЗУБКОВІЧ (Смалявічы); царква св. Мікалая ў Козыраве (Мінск), 1934 год. У цэнтры -- архіепіскап Філарэт НАРКО.**



*ПІСЬМЫ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ*

# ЧУЖЫМІ РУКАМІ МОЖНА І ЖАР ЗАГРАБАЦЬ

Некаторыя беларусы з Амерыкі, Канады, Ангельшчыны вельмі хочуць, каб у Беларусі была толькі адна дзяржаўная мова -- беларуская і ўведзена была пад прымусам (толькі на беларускай мове дазваляецца размаўляць, а хто загавора па-руску, то хай едзе ў Расею -- такі лейтматыў гэтых прапаноў).

Калі гэтыя беларусы так любяць беларускую мову, то чаму яны не вяртаюцца на сваю радзіму Беларусь? Яны хочуць заставацца ў Амерыцы, Канадзе, Аўстраліі, бо тут значна лепшы дабрабыт, чым на Беларусі. Яны толькі вельмі любяць рабіць свае прапановы, як і што трэба ўраду зрабіць на Беларусі і як беларускі народ павінен жыць і якія мець паводзіны.

У ЗША фактычна ўведзена дзве мовы: ангельская і гішпанская. А ў некаторых школах то і руская (дзе шмат дзяцей). Бачыце, амерыканцы не баяцца, што ўсе гэтыя лацінаамерыканцы, мексіканцы і гэтак далей заглушаць ангельскую мову. У гарадскіх установах, у судах і гэтак далей, калі хто не разумее ангельскай мовы, працуюць людзі, якія добра ведаюць гішпанскую мову, і з такім размаўляюць на яго роднай мове.

Яшчэ невялічкі прыклад. У Канадзе існуе правінцыя Квебек, дзе больш за 8 мільёнаў французаў. Тыя французы -- вялікія нацыяналісты і ўвесь час імкнуцца стварыць сваю асобную французскую дзяржаву (выйсці з федэрацыі Канады). А пакуль да самастойнасці, то гэтыя французы загадалі ў школах вучыць толькі французскую мову, таксама ва ўстановах размаўляць па-французску, надпісы вуліц зрабіць на французскай мове.

Шмат і беларусаў жыве ў тым Квебеку. То беларусы закрычалі, што яны не хочуць вывучаць французскую мову, а толькі ангельскую. Чаму? Бо ведаючы ангельскую мову, беларус можа разумець і размаўляць амаль з паловай свету, а французская мова ўжываецца толькі ў маленькім Квебеку, а ў Францыю ніхто не збіраецца перасяляцца.

Бачыце, якія мудрыя гэтыя замежныя беларусы (крывічы). Яны добра ведаюць, што ім найлепшае ў жыцці, а вось на Беларусі каб толькі была беларуская мова адна.

Безумоўна, калгасніку ці селяніну, вясковай кабеце хопіць і адной беларускай мовы ў сваёй вёсцы ці раёне. А маладым, якія ведаюць рускую мову, адчынены ўвесь велічэзны СССР, ці зараз Расійская Федэрацыя, яго разумеюць і ў Сібіры, і на Каўказе, ён паедзе вучыцца ў Маскву, Пецярбург, ды наогул, куды захоча. І за межамі Беларусі шмат хто разумее рускую мову -- у Амерыцы, Нямеччыне, Канадзе, Францыі, чаго нельга сказаць пра беларускую.

Я не супраць беларускай мовы, я люблю беларускую мову, але я супраць таго, каб нешта рабіць пад прымусам.

Калі ў беларускай літаратуры будуць такія творы, як Якуба Коласа "У Палескай глушы" і Цішкі Гартнага "Сокі цаліны", то кожны захоча авалодаць беларускай мовай, каб чытаць гэтую класіку ў арыгінале. Я памятаю, як мая старэйшая сястра Вера, якая і не ведала ў дасканаласці беларускай мовы, а з захапленнем чытала "Сокі цаліны" Цішкі Гартнага. А каб былі такія класічныя творы, то трэба стварыць Літаратурны фонд для падтрымкі маладых талентаў. Замежныя багатыя беларусы гэта лёгка могуць зрабіць. Але яны лапочуць толькі языком, што яны ёсць вялікія патрыёты Беларусі, а на справе зусім наадварот. Вось маленькі прыклад: у Канадзе, у глухамані, сярод лясоў і балот, ёсць нейкая "прошча" -- устаноўлены крыж у памяць нейкіх мучанікаў. Дык беларусы заплацілі 5 тысяч доляраў, каб і ім дазволілі ўстанавіць там беларускі крыж. А ў тую глухамань і людзі толькі раз у год прыязджаюць. А цяпер, каб пры тым крыжы ўстанавіць нейкую дошку з беларускімі імёнамі -- яшчэ пяць тысяч доляраў заплацілі. Я не супраць таго крыжа і той дошкі, але лічу, што значна лепш было б тыя грошы ўкласці ў Літаратурны фонд для развіцця беларускай літаратуры.

Яшчэ прыклад. Кожны год беларусы Амерыкі і Канады (крывічы) робяць сустрэчу. А сустрэча гэта -- баль-банкет (банкетуе пан, як пісаў Якуб Колас). Кіруючая роля ў гэтых розных беларускіх арганізацыях (крывіцкіх) належыць беларусам з былой Польшчы. Ад палякаў яны навучыліся "шыку", вялікаму гонару, задавацца, паказваць з сябе, што вось мы якія! Той баль-банкет робіцца ў найлепшым гатэлі горада, арэнда залі каштуе можа 500 доляраў. На той баль-банкет запрашаюцца ўсялякія гарадскія чыноўнікі, кангрэсмены, купляецца найлепшая "віскі" і закуска. Трацяцца вялікія грошы, і рэкламуюць сябе, што вось мы якія! Гэтыя беларусы маюць надзею, што тыя кангрэсмены ім у нечым дапамогуць, скажам, перамяніць парадак на Беларусі і іншае. А ў Амерыцы частыя выпадкі, што сёння нехта кангрэсмен, а праз год ці два яго пасадзілі ў турму як вялікага злодзея. А вы, беларусы, карміце яго і паіце і пакладайце надзею пабольш.

У гэтай Амерыцы, Канадзе і другіх краінах беларусаў сотні тысяч, калі не мільёны. Тут можна стварыць дапамаговыя камітэты для Беларусі ў кожным горадзе і мястэчку і нават вёсцы і заваліць тую Беларусь мільёнамі доляраў і кожны месяц пасылаць параход з цукрам, салам, адзеннем. Безумоўна, шмат хто з гэтых беларусаў не размаўляе ні па-беларуску, ні па-руску, але кроў і душа яго застаюцца беларускімі, і ён гатовы дапамагчы "старому краю", як тут кажуць пра радзіму сваіх бацькоў і дзядоў. Але ўся бяда ў тым, што гэтыя свядомыя беларусы (крывічы) вельмі абмежаваныя людзі, яны лічаць беларусам толькі таго, хто гутарыць па-беларуску, і мала гэтага: павінен належаць да іх партыі, вызнаваць іх "урад" (яны маюць некалькі такіх замежных "урадаў"), і маленькая нязгода з іх палітычнымі "ўстаноўкамі" залічвае цябе аўтаматычна ў злейшыя ворагі Беларусі і беларусаў. І яшчэ адно: павінен належаць да іх "аўтакефаліі" (самасвяцкай царквы). Калі ты не належыш ці наогул не належыш ні да ніякай царквы -- значыць, ёсць вораг. Хоць яны і крычаць пра дэмакратыю і лаюць бальшавікоў, але ім яшчэ трэба навучыцца быць дэмакратамі, паважаць чужыя погляды, быць талерантнымі. А яны ўсіх беларусаў хочуць падагнаць пад свой "капыл", загнаць іх у "пракрустава крывіцкае ложа".

**Кастусь ЯКУБ.**

ЗША.

# СУАЙЧЫННІКІ І СООТЕЧЕСТВЕННИКИ!

Добры дзень, паважаная рэдакцыя, ці уважаемая редакция!

Цяпер ужо, здаецца, не будзе розніцы, на якой мове я буду звароччвацца да вас, на беларускай ці рускай?!

Я выбраў беларускую на гэты раз. Аднак вынік рэферэндуму, які не так даўно меў месца на Беларусі, дае мне роўнае права звароччвацца да вас і на рускай мове. Я сам з Беларусі і ўжо доўгі час жыву ў Брытаніі. Аднак я маўчаў. Усё ў вашай газеце апошнім часам гаварылі з Брытаніі тыя беларусы, якія былі крайніх поглядаў і ў моўным пытанні, ды і ў іншых. Яны і тыя, што падобныя да іх, рашылі адрадзіць беларускі народ, ці, як там дакладней, нарадзіць! Аднак утварыць новы народ зусім няпроста. У Ізраілі гэта ўдалося здзейсніць, а вось у Босніі пакуль не. Хаця і Захад жадае бачыць штучную краіну Боснію між іншых, але... Раней да гэтага не выйшла з Кіпрам, не выйшла, як відаць, у Захада і з курдамі. Апошніх, як бачым, непатрэбна адраджаць, яны, многія, жадаюць сваёй дзяржавы.

А вось з Беларуссю, наадварот, падобна, як з Босніяй, не дай Бог, канешне, яшчэ вайны той і на Беларусь! А што да штучнай дзяржаўнасці, ці нерэальнай, то гэта ж відавочна! Калі які мільён жадае быць беларусамі, дык колькі ж мільёнаў тых, хто жыве на ўсход ад Мінска і не жадае імі быць або яшчэ не вызначыліся, якую нацыянальнасць ім прыняць. Ці не іх некалі Сталін, не папытаўшыся, далучыў да Беларусі ў 1924--1926 гадах? Гэта датычыць добрага кавалка Віцебшчыны, амаль яе паловы, Магілёўшчыны, Гомельшчыны.

Ды тыя, хто з БНФам, і слухаць аб гэтым не жадаюць, іх мроі аб Беларусі ў межах ВКЛ. Гэта і Смаленск, і Бранск, і г.д. Аднак што з гэтага, калі цяпер там жывуць рускія, а можа мы іх прымусім быць беларусамі?! Я не жадаю ні каб гэтак было, ні наадварот.

Прайшоў рэферэндум, народ вызначыўся, калі можна гаварыць пры гэтым аб якім народзе?! Можа гістарычныя ліцвіны з Навагрудчыны ды і навокал яе мала чаго маюць супольнага з крывічамі Віцебска і г.д. Можа, напрыклад, пры перапісе яны запішуцца беларусамі, а можа лепш (іх права) ліцвінамі. А вось крывічы Віцебска ці Магілёва пажадаюць можа ў бальшыні запісацца рускімі, ці не іх гэта права?! Іх Сталін не пытаўся, калі далучаў да БССР у 20-я гады, ці хочуць яны быць беларусамі.

Але досыць. Гэта проста аргументы, але не БНФаўскія. Няхай адраджаюць тых, якія таго жадаюць! Кончана з тым, што яны ўсім нам хацелі накінуць толькі беларускую мову, толькі гэтак думаць, як яны, і г.д. Вось жа такім я не спадабаюся, вось жа будуць гаварыць, што я здраднік іхняй Радзімы -- Беларусі. Не, я не здраднік маёй радзімы -- Белай Русі! Як не здраднікі тыя, хто бачаць сваёй радзімай Кіеўскую Русь, і тыя, хто Галіцыю. Там таксама пытанне аб мове нявырашанае... У нас, дзякуй Богу, яно вырашылася... Так і з сымболікай... Так што, я не адцураўся свайго, як бачыце, аднак змог вось і на беларускай мове нешта напісаць. Хоць звычайна ад дзяцінства карыстаўся і карыстаюся рускай. А цяпер маю на тое нават права, і ніякі з крайніх беларускіх нацыяналістаў тут у Брытаніі мяне не папракне...

Ну і ў канцы пісьма крыху па-руску. Желательно и в вашей бы газете видеть, господа, статьи и заметки не только по-белорусски, но и на русском языке. Ведь белорусский язык государственный вместе с русским. Последуйте примеру "Народной газеты". Ведь и на Западе у вас не толькі суайчыннікі, но и соотечественники!

Что касается печатания этого моего письма, я не против. Но вы будете, возможно, против, ради справедливости и в противовес тем, кто ранее писал вам из Англии, вы бы должны были не пожалеть места и для моего мнения. Для первого раза я не подам вам моего полного адреса из-за возможной нетерпимой реакции здешних так называемых "свядомых беларусаў", но на другой раз подам, а пока ограничусь вот такім.

**О. БУТКЕВИЧ.**

г. Бирмингем,
Англия.

*АД РЭДАКЦЫІ. Мы не пашкадавалі месца для гэтых двух лістоў нашых даўніх чытачоў. І не дзеля таго, што цалкам падзяляем погляды аўтараў. А дзеля таго, каб яшчэ раз паказаць, якія ж мы розныя -- беларусы. І як многа "рускіх беларусаў" не толькі ў самой Беларусі. Відаць, яшчэ больш за яе межамі. Дык як жа нам усім, не паказваючы адзін на аднаго пальцам, навучыцца жыць у згодзе, цярпімасці і павазе, карацей -- быць адзіным народам?..*

# ВАНДРОЎКА ДА ВЫТОКАЎ

У СЯРЭДЗІНЕ чэрвеня 20 вучняў беларускай школы Вільні здейснілі задуманае зімой -- вандроўку на Полаччыну.

11 чэрвеня. Нядзеля. Цудоўны сонечны летні дзень. На аўтобусе ад"ехалі ад будынка школы і праз Новую Вільню па полацкай шашы накіраваліся ў бок Беларусі. Настрой у дзетак быў добры -- спявалі песні, слухалі музыку, разглядалі краявіды ўздоўж дарожнай стужкі.

Хутка праляцелі 5 гадзін, і мы апынуліся ў старажытнай сталіцы Беларусі -- сівым Полацку. Уладкаваліся на турыстычнай базе Наваполацка, папалуднавалі, і нас пачалі знаёміць з гістарычнымі мясцінамі горада. Амаль кожны крок звязаны з падзеямі і імёнамі: Чырвоны мост, Вал Івана Грознага, помнік Францішку Скарыне, Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр. Падзеі далёкіх і блізкіх часоў.

Наша знаёмства пачалося з самага прыгожага месца -- высокага берага Заходняй Дзвіны, дзе знаходзіцца Полацкая Сафія. Белакаменная Сафія, здаецца, рвецца ў паднябессе. Усе былі ўражаны майстэрствам нашых далёкіх продкаў, якія ўмелі так прыгожа і трывала будаваць. Колькі пранеслася войнаў, пажараў, разбурэнняў побач з Сафіяй, але яна і сёння здзіўляе нашчадкаў умельцаў крывічоў.

Тут побач стаіць, як вартаўнік, на крутым беразе Барысаў камень -- адметны знак даўніны.

Экскурсавод сваім аповядам перанёс нас у мінулае, калі жылі людзі, падобныя да нас, з такімі ж пачуццямі, думкамі, радасцямі і бядотамі.

Праз некаторы час мы былі на панадворку Спаса-Ефрасіннеўскага жаночага манастыра. За сценамі яго бурліць горад, а тут спакой, развага, жанчыны даглядаюць гародніну, кветнікі, вельмі чысты прыбраны двор. Манахіні працуюць на агародзе і ў царкве. У гэтыя дні святкавалі ўгодкі Ефрасінні Полацкай. З жыццём, лёсам і справамі гэтай вялікай асветніцы Беларусі мы пазнаёміліся раней, у школе, але тут, дзе захаваліся камяні бруку, па якіх хадзіла паслушніца Ефрасіння, тая келля, дзе яна працавала і малілася, цагляны ляжак, на якім яна адпачывала, -- усё ўражвала. Прайшло 800 год, але самаахвярная праца гэтай жанчыны здзіўляе і сённяшніх людзей.

Вось прыклад патрыятызму, адданасці сваёй Радзіме, жыццё дзеля асветніцтва сучаснікаў і будучых пакаленняў! І калі ў чалавека ёсць стрыжань, ідэя, ён зможа вытрымаць усякія цяжкасці. Такой патрыёткай і самаахвярніцай захавалася для ўсіх нас Ефрасіння.

На наступны дзень мы былі на землях лясной і азёрнай, вельмі прыгожай Ушаччыны, дзе болей 50 год таму праходзілі самыя жорсткія і крывавыя баі з азвярэлым фашызмам. Агонь вайны прайшоў праз лёс кожнага жыхара Ушаччыны. Старая бабуля казала нам, што кожная сям"я згубіла бацьку, брата ці сына. Нікога не пашкадавала вайна. Тут мы агледзелі комплекс "Прарыў" -- велічны помнік простым людзям, якія аддана змагаліся і якіх загінула тут некалькі тысяч.

У гэты дзень мы здзейснілі вандроўку па Наваполацку, пабылі ў "Беларускай хатцы", якая знаходзіцца на двары школы. Гэтую хатку абсталявалі настаўнікі і вучні ў час этнаграфічных вандровак па вёсках прылеглых раёнаў. Тут сабраны ручнікі, абразы, ступы, рагачы, кросны, сеялкі, цапы, цэбры. Імі карысталіся жыхары вёсак. Але з імі, дзякуючы цывілізацыі, людзі пачалі развітвацца. Цяпер гэтыя рэчы сабраны ў "Беларускай хатцы". Яны таксама гавораць аб кемлівасці, працавітасці нашых ужо далёкіх і недалёкіх продкаў.

Вучні з цікавасцю агледзелі музей гісторыі друкарства Беларусі імя Ф.Скарыны, былі мы і ў гісторыка-этнаграфічныммузеі. Агледзелі ваколіцы Полацка, адпачывалі на возеры Белым і на Дзвіне.

Поўныя ўражанняў ад убачанага і пачутага, прыціхлыя, вярталіся мы дадому ў Вільню, якая ў даўнія часы была цесна звязана з Полаччынай, куды цяпер не так лёгка прыехаць нават нам, беларусам, каб пабыць на сваёй гістарычнай Радзіме.

Мы вельмі ўдзячныя турыстычнаму цэнтру Наваполацка, які ўзначальвае спадарыня Карабкова Вольга, экскурсаводам за арганізацыю экскурсій, начлегу, культурных мерапрыемстваў, за тое, што яны аднесліся да нас вельмі добра і спачувальна.

Мы ўдзячныя і спадарыні Сівалавай Галіне, дырэктару школы, якая дапамагала ў арганізацыі падарожжа і для якой выхаванне ў вучняў адданасці Бацькаўшчыне, патрыятызму -- абавязковае.

Да новых сустрэч, дарагая Бацькаўшчына!

**Паўла САЎЧАНКА,**
**настаўнік беларускай школы г. Вільні.**

# ПРЫВІТАННЕ АД ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

На Беларусь жа ён трапіць як удзельнік слыннай беларускай антыбальшавіцкай арганізацыі "Зялёны Дуб" і беларускіх добраахвотных фарміраванняў Булак-Балаховіча. Падчас польска-бальшавіцкай вайны 1920 года ён ваяваў як падпаручнік польскай пяхоты. Тады быў упершыню паранены. Пераненага падпаручніка накіроўваюць у школу падхарунжых у Варшаве, адкуль ён выходзіць са званнем падхарунжага.

Дэмабілізаваны з войска ў траўні 1921 года, Пясецкі праз год стаў агентам польскай контрразведкі ("двойкі"). Дасканала ведаючы беларускую ды расійскую мовы, шматразова і паспяхова пераходзіў граніцу ў Саветы. Тады ж пачаў займацца перамытніцтвам.

Застаўшыся без працы, Пясецкі напачатку спрабуе выехаць у Замежны легіён, але яго не выпускаюць: як афіцэр запасу, не атрымлівае дазволу. Прамарнаваўшыся паўгода ў нэндзе (ніякіх запасаў на "чорны дзень" Сяргей не сабраў: тысячы долараў, "зафартаваныя" за адну ноч, гэтак жа лёгка пакідалі кішэню адважнага перамытніка), ён вымушаны ўзяцца за старое. Вымушаны крочыць сцежкай сваёй прафесіі. ("Навучыце рысь харчавацца раслінамі?" -- запытальна напіша ў прадмове да рамана Пясецкага знакаміты Мельхіёр Ваньковіч). Але польска-савецкая мяжа да таго часу добра ўмацавалася, і зарабляць перамытніцтвам рабілася ўсё цяжэй. Таму Пясецкі перакваліфікоўваецца: займаецца звычайным рабаўніцтвам.

Схоплены паліцыяй пасля нападу на паштовую конку, што ехала з Васілішак у Новую Вілейку, пастановаю віленскага палявога суда ад 9 студзеня 1930 года, ён быў прыгавораны да пакарання смерцю. Але тут падала свой голас усемагутная "двойка". Згодна з пасведчаннем апошняй, колішняя "...праца Пясецкага была вельмі выніковай... данясенні маюць важныя звесткі... вызначаўся бравуровай адвагай. У разведцы служыў са стараннем. Даручаныя яму заданні выконваў не зважаючы на сваё жыццё і здароўе...".

Так заслугі маладосці перамаглі смерць.

Але ў турме Пясецкага наведалі неадступныя спадарожнікі кайданнага жыцця -- сухоты. Каторы раз за кароткае жыццё кашчавая з касою схілілася над ім.

Ды не толькі яна пазірала ў шэры твар зняволенага. У ясныя ночы яму свяцілі зоркі Вялікай Мядзведзіцы. Тыя, пад якімі Пясецкі безліч разоў хадзіў на імгненне ад пагібелі і якія ратавалі яго, надзейна паказваючы дарогу з Саветаў на Захад і наадварот. Ва ўспамінах ажывалі брукаваныя вулкі і плошчы Ракава, Івянца, Рубяжэвіч, ваколіцы Выганічаў, Волмы, Гараняў, Душкава, Затычына, Байдакоў, Наваселля, Траскоўшчыны ды іншых аселіц і хутароў, рассыпаных паміж прыгранічным Ракавам ды Мінскам, па якіх у "залаты перамытніцкі сезон" плылі тавары. Зорныя ўспаміны абуджалі душу заўчасна пахаванага маладзёна да сталай літаратурнай творчасці.

Па няпэўных звестках, яшчэ да зняволення Пясецкі ўдала рыфмаваў вершы і пісаў навелы па-расійску. У турме ж давялося авалодваць той мовай, на якой дагэтуль аніколі не пісаў. Тым самым Пясецкі сцвердзіў, што талент, знаходзячыся ў антыўмовах, здольны прабіцца і рэалізавацца нават у чужаземнай абалонцы.

Зрэшты, узыходжанне Пясецкага-празаіка не адбылося б так шчасліва, калі б не знаёмства з славутым польскім пісьменнікам Мельхіёрам Ваньковічам (таксама паходзіў з Беларусі).

"Я паходжу з Віленска-Смаленскай брамы, брамы шырынёй у 70 кіламетраў, на якой за яе гісторыю адбылося 28 вялікіх бітваў. Магчыма, таму мы, людзі адтуль, маем адмыслова настроенае сейсмічнае вуха на шолахі з Еўраазіяцкіх абшараў, на мелодыю граніцы, якая на працягу нашай гісторыі, аднак, бегла ад бярозкі да бярозкі, ад балацінкі да балацінкі, паласой нябачнай, няраз паласой па некалькі дзесяткаў кіламетраў. Можа таму я спецыяльна ўважліва занатоўваў гэтыя трымценні граніцы, -- так распачаў прадмову да першага выдання самага папулярнага рамана Пясецкага "Каханак Вялікай Мядзведзіцы" Мельхіёр Ваньковіч, прызнаючыся: "Таму для мяне сталася вялікай неспадзеўкай, калі аднаго дня я атрымаў з астрога на Святым Крыжу два тоўстыя сшыткі, засыпаныя дробным макам літарак, і калі ў іх учытаўся, зразумеў, што гэта піша свае ўспаміны колішні перамытнік з Ракаўска-Івянецкага прамежка".

На прафесійнага літаратара знаёмства з рукапісам зрабіла самавітае ўражанне: майстра пазнаў майстра. Апрача рукапісу, у бандэролі ляжаў доўгі ліст арыштанта, спярэшчаны частымі закрэсліваннямі турэмнай цэнзуры.

"Пішу, бо пісаць павінен, -- пахапліва прызнаваўся празаік-неафіт. -- Проста гэта мая арганічная патрэба, непераможнае жаданне. Часамі наплыў успамінаў палохае мяне, якія (выкраслена цэнзурай)... Развальваюць маю галаву. А тым часам здаровы сэнс патрабуе пісаць павольна, удумліва, удасканальваць стыль, вывучаць мову, пашыраць веды. Як гэта цяжка без неабходных кніг, у неадпаведных умовах. Як прыкра расцягваць працу на месяцы, гады, калі хочацца зрабіць адразу... каб супакоіцца.

Мне вельмі прыкра, што моўнае аздабленне майго рамана такое благое. За апошні год працы над авалоданнем мовы я гэта добра зразумеў. Такія памылкі, якія раблю, напэўна, выглядаюць дзікімі і камічнымі. Пазбаўлюся іх у наступных раманах... Мне вельмі перашкаджае знаёмства з рускай мовай і тое, што дагэтуль не сутыкаўся з людзьмі, якія правільна размаўляюць па-польску, паколькі больш дзесяці гадоў кручуся ў асяродку людзей, якія карыстаюцца дзівоснымі дыялектамі або ўжываюць гратэскавую трасянку з некалькіх моў".

Якой каштоўнай для пачынаючага празаіка, адгароджанага турэмнымі кратамі і высокім каменным мурам ад астатняга свету, уяўлялася "завочная кансультацыя" з тагачасным варшаўскім літаратурным перыёдыкам "Літаратурныя навіны", відаць з уласнага прызнання Пясецкага.

"Дагэтуль адзіным маім праваднікам і настаўнікам былі "Wiadomosci Literackie", якія я па маёй просьбе атрымліваю ад пана рэдактара з сакавіка 1935 года задарма. З іх чэрпаю веды, вучуся мове і баюся падзякаваць любімай газеце за тое, што недзе за бартом жыцця ёсць чалавек, які сам, нічога не даючы, выкарыстоўвае працу, талент і арганізацыю шматлікіх людзей, што стаяць ля варштата культуры. Ад іх я найбольш і ўзяў, яны былі для мяне радасцю і святлом... Мару пра тое, каб у будучым падзякаваць ім".

Гэта былі яго вышэйшыя літаратурныя курсы і універсітэт пісьменства.

"...Пісаць сур'ёзна я пачаў з сакавіка 1934 г., аднак усе дачасныя спробы лічу толькі ўступам да грунтоўнай літаратурнай працы... Нядаўна меў магчымасць прачытаць выдатную прадмову Яна Парандоўскага да "Школы сэрца" Гюстава Флабэра. Зрабілі на мяне моцнае ўражанне. Памятаю з яе цэлыя абзацы. Гэта будзе для мяне... школай працы. Што праўда, не магу пісаць павольна, паколькі тэма заўсёды захоплівае мяне, але гэта стане тымі лейцамі, якімі затрымаю непатрэбны і шкодны для мяне разгон..."

Разгон Пясецкі набіраў праўдзіва шпаркі. Пад раманам "Каханак Вялікай Мядзведзіцы" ў амаль паўтысячы машынапісных старонак стаіць дата: 14 кастрычніка 1935 г. -- 29 лістапада 1935 г. Святы Крыж, турма". Рукапіс, густа пазначаны сінімі штэмпелямі турэмнай цэнзуры, напісаны за нейкіх 40 дзён, за "сарачыны". Як вяртанне ў "рай" -- бурлівую маладосць і ачышчэнне ад мажлівых грахоў.

Твор і чытаецца гэтаксама, як і быў напісаны: на адным уздыху. Толькі ў адрозненне ад сучасных кніжных серыялаў, тыпу "Класіка Галівуда", раманы Пясецкага хочацца перачытваць неаднойчы. Мо таму, што "нейкая невылечная настальгія кіруе паводзінамі" ўсіх ягоных герояў. Настальгія па дабрыні. Чытаючы раман, можна даведацца пра шмат якія рэаліі жыцця заходнебеларускіх вёсак. Непаўторны каларыт рамантычнай і небяспечнай прафесіі перамытніка суседзіць у творы з пэўнай сентыментальнасцю аўтара да простага селяніна, якому і пад Польшчай, і пад Саветамі жылося "сярмяжна".

"Якая ж гэта жахлівая рэч -- сляпіцца над пісаннем доўгімі месяцамі, гадамі, брацца за пісаніну людзям, якія да яе нясхільныя, -- шчыра дзяліўся з чытачамі сваім захапленнем М.Ваньковіч пасля першага знаёмства з рукапісам рамана. -- Не мець ніякай дапамогі, ніякай падказкі, ніякага заахвочвання, ніякай узнагароды, згінаючыся пад цяжарам сумлення, прасоўвацца ў поўнай невядомасці, шукаць слова -- новую прыладу, якая так адрозніваецца ад нажа і браўнінга ў недасведчанай галаве, а пасля пасылаць разбухлую рэч у далёкі цывілізаваны свет".

Падзеі рамана разгортваюцца пераважна ў прыгранічным Ракаве. Сюжэт рамана найлепш пераказаць словамі М.Ваньковіча.

"У сталай небяспецы і празмерных грашах цячэ жыццё ў пагранічным Эльдарада. Адважны і прадпрымальны хлопец бярэ ўсё большыя вышыні. Распараджаецца тысячамі даляраў. Мае з абодвух бакоў граніцы каханак, дыктуе граніцы свае правы. Перастае насіць тавар, пачынае "вадзіць фігуркі", гэта значыць, суправаджае людзей праз граніцу. Аж нарэшце -- выплывае на шырокія воды сапраўднага піратства. У таварыстве з дзвюма другімі шалёнымі галовамі пачынае нападаць з засады на перамытнікаў, што вярталіся з далярамі і залатымі рублямі з-за граніцы. Тыднямі ён спіць пад балдахінамі лясных ялін. Ведае кожны перасмык, па якім ідзе зверына, ведае, калі ўдарыць не намарна...

Паступова Пясецкі застаецца адзін. Калегаў перастралялі, або яны адышлі... Рве і кусае людзей. Нарэшце прыдыбаў Бэрку Станогу і адбірае ў яго 7 400 даляраў. Ужо і сам не ведае, колькі грошай хавае па мялінах. Але яны не цешаць: невылечная хандра раздзірае яго. Ідзе развітацца з магілай, месцам, дзе калегі знайшлі яго, саслабелага і непрытомнага, пасля ўцёкаў з савецкіх турмаў. Там павінна з'явіцца здань, сам некалькі разоў бачыў белы цень. І зараз ёсць цень. Гэта дачка рускага афіцэра, забітага на тым месцы пры пераходзе мяжы. Развітваюцца".

І вось яны -- заключныя радкі рамана.

"На паўночным захадзе ззяе неверагодна прыгожая Вялікая Мядзведзіца. Яе атулілі лёгкія пушыстыя снежна-белыя аблокі. Гэта быў канец майго трэцяга залатога сезона. Гэта былі ўгодкі смерці Сашкі Вэбліна -- некаранаванага караля граніцы. Гэта была мая апошняя ноч на пагранічча..."

Мельхіёр Ваньковіч горача заапекаваўся далейшым лёсам рамана і яго зняволенага аўтара. "Маё пакаранне скончыцца 30 верасня 1941 г., -- паведамляў яму аўтар-арыштант. -- Акруговым судом г. Вільні я быў прыгавораны да пакарання смерцю, літасціва замененай на пятнаццаць гадоў турэмнага зняволення. Згодна закону, па адбыццю дзвюх трэціх пакарання, я быў бы адпушчаны на парукі, аднак не маю магчымасці пераканаць, што не вазьмуся зноў зарабляць на пражыццё зброяй". Дасюль штогадовыя прашэнні Пясецкага аб памілаванні не краналі сэрца прысяжных касацыйнага суда. Так, на адным з апошніх пасяджэнняў ад 28 траўня 1936 года суровыя служкі закона аднагалосна пастанавілі: "ні ў акалічнасцях справы, ні ў прашэннях падацеля ня бачаць ніякіх падстаў прызнаць Сяргея Пясецкага вартым памілавання".

Дзякуючы прыхільнасці міністра Грабоўскага, слынны пісьменнік атрымаў магчымасць наведаць Пясецкага на Святым Крыжы.

"Зямлістыя, знясілены твар. Хто ж вызначыць узрост гэтай маскі. Бліскучыя, глыбока запалыя вочы. Гэта той чалавек, які штогод стукаецца ў свет з прадоння труны?..

Гаворыць толькі пра творчасць. Не скардзіцца. Пытаецца, усцяж пытаецца, як трэба пісаць. Паведамляю яму, што аванс з ганарара пакінуў у начальніка астрога. Гэта яго зусім не абыходзіць. Пытаецца, ліхаманкава пытаецца, як жа пішацца. Кажа, над чым працуе, што распачаў трылогію з жыцця злачыннага свету..."

На развітанне Ваньковіч падараваў яму вечнае пяро і бутлік атраманту, а таксама пачак паперы. "... паперу не прымае: правілы не дазваляюць трымаць паасобную паперу -- павінна быць збрашураванай. Абяцаю выслаць сшыткі. Напаўняю асадку. З захапленнем у вачах назірае, як запаўняецца празрысты балончык.

Набожна бярэ ў рукі пяро і спрабуе пісаць. За вокнамі, аплеценымі тоўстымі кратамі, шматкамі павольна ападаюць вялікія мяккія сняжынкі. І з гэтага простага акту перадачы прылады працы творыцца нейкі абрад. Пазірае? Не, гэта хутчэй нейкія два адрозныя між сабой сусветы".

Незабыўнае ўражанне засталося ў Ваньковіча пасля наведання астрога, які ён вырашыў агледзець, развітаўшыся з Пясецкім і абяцаючы яму сваю дапамогу ў атрыманні памілавання.

"На скрыжаванні кожнага калідора вартаўнік працягла крычаць: "У-ваааага-а!.." І глухі гул ляціць па будынку. Што азначае гэты гул?

У камерах, адасобленых пляцёнкамі крат ад калідораў, падлогі якіх адпаліраваныя да бляску (паколькі вязні паліруюць іх бутэлькамі), стаяць "на зважай!" дзве шарэнгі вязняў у арыштанцкім адзенні.

Тыя твары -- гэта твары вупыраў... У камерах, малых камерах, велічынёй з сярэдні пакойчык, сядзіць больш дзесятка вязняў. Іх сяннікі паднятыя высока над галовамі. Ноччу не застаецца і пядзі зямлі. У камеры нейкія тры зэдлікі на дзесятак людзей. Рэшта...

"Адлачывай..." Глухі гул зноў нараджаецца ў астрозе. Гэта сямсот з нечым арыштантаў пачынае хадзіць па камерах, стукаючы драўлянымі падэшвамі ступакоў. Хадзіць... Але як?

Камеры гэткія цесныя, што хадзіць немагчыма. Таму вынайшлі метаду: становяцца ў дзве шарэнгі і крочаць па камеры, паварочваючыся па каманадзе. Так ходзячы, размаўляюць або... думаюць. Ніхто не можа збіцца з кроку, ні аступіцца на палову рытма, бо ўсё змяшалася б.

Зараз праходзім шэраг закратаваных камер і ў кожнай бачым больш дзесятка забойцаў, бандытаў, крывазмяшальнікаў, шпіёнаў, альфонсаў, атрутнікаў, наёмнікаў (на Святы Крыж рэдка трапляе вязень, які атрымаў менш дзесяці гадоў, а колькі ж тут пажыццёва асуджаных, што засталіся ў спадчыну яшчэ ад немцаў). У рытме, адбіваным драўлянымі ступакамі, яны ходзяць, кідаючыся ад сцяны да сцяны. Страшныя твары нарастаюць, сунуцца да дзвярэй, каб зараз жа, праз хвіліну, перад намі былі шарэнгі падстрыжаных патыліц. Як дзікі драпежнік, кідаецца астрог ад кратаў да вакна, ад вакна да кратаў на дзвярах.

У нейкай з тых камер піша свае раманы Пясецкі".

Пясецкі яшчэ адбываў пакаранне, калі ў Варшаўскім выдавецтве "Рой" на пачатку 1937-га выйшаў ягоны "Каханак Вялікай Мядзведзіцы" -- раман, якому быў наканаваны трыумф у Еўропе. (З усіх краінаў тут паказальная Італія: пачынаючы з 1940 года, "Каханак" перавыдаваўся ў ёй 21 раз).

Адзін з апошніх астрожных лістоў Пясецкага да Ваньковіча прасякнуты падзякаю за ўсё добрае, зробленае пісьменнікам для зняволенага. Паведамляючы, што адаслаў ужо чарговыя раманы "Пяты этап" і "Жыццё раззброенага чалавека", аўтар выказваў надзею:

"Я вельмі хацеў, каб у будучым пан ганарыўся за мяне... Дзякуй, вялікі дзякуй за вечнае пяро. Як дзіця, цешуся ім. Сапраўды... Увечары думаю, як устану і буду ім пісаць... і вельмі недаверліва гляджу на кожнага, хто на яго пазірае. Радуе мяне больш, чым некалі зброя... Вялізная палёгка ў працы. Нарэшце магу карыстацца тым, што ўяўляе сабой драбніцу культуры. Не маючы чым падзякаваць пану, пасылаю прывітанне ад Вялікай Мядзведзіцы. Бачу яе з маёй камеры ў пагодлівыя вечары... Якія прыгожыя, якія незвычайныя, якія цудоўныя, якія прамяністыя ў яе вочы!.."

Намаганнямі Ваньковіча і іншых польскіх пісьменнікаў улетку 1937 года Пясецкі быў вызвалены з месца зняволення на парукі сваякоў (у Гродне жыў ягоны родны брат Анатоль). Працяглы час Сяргей лекаваўся ў Закапанэ, потым жыў у маёнтку Раготна, што на Наваградчыне, у сям'і блізкіх прыяцеляў Кулакоўскіх. Удзельнічаў у другой сусветнай вайне ў шэрагах Арміі Краёвай на Віленшчыне (пад псеўданімам Kira. Konrad, Suez).

Пасля вайны праз Польшчу, Чэхію, Італію трапіў у Лондан (1947). У Англіі ім былі напісаны новыя раманы "Запіскі афіцэра Чырвонай Арміі") (Лондан, 1957), "Жыццё ўзброенага чалавека" (Лондан, 1962), "Ваўкалак" (Лондан, 1964) і іншыя.

12 верасня 1964 года ў польскім шпіталі Peley (Walia) Borogh Cemetery у Hastings пісьменнік самотна памёр, так і не заснаваўшы ўласнай сям'і.

Але народжаныя ім творы шырока разышліся па свеце.

Урэшце, больш чым праз паўстагоддзя на Беларусь вяртаецца ягоны раман "Каханак Вялікай Мядзведзіцы". (Па ім быў зняты кінафільм вытворчасці Sancro Film Internaz. Co Rym. Concorzio Distributori Independenti Del Film.

Рым: здымкі фільма закончаны ў 1972 годзе, у 1982 годзе адзняты тэлесерыял. Права на ягоны паказ RAI прадала тэлівізіі княства Монтэ-Карла, а таксама іншым 20 лакальным рэтранслятарам у Італіі). І гэта толькі першая ластаўка з нябеднай творчай спадчыны арыгінальнага пісьменніка. Упэўнены, поўнае вяртанне і асэнсаванне адметнай постаці Сяргея Пясецкага на Еўрапейскім Парнасе -- яшчэ наперадзе.

Раман неўзабаве павінен пабачыць свет у Выдавецкім цэнтры "Бацькаўшчына" ў перакладзе беларускага мастака Фелікса Янушкевіча.

"Голас Радзімы", такім чынам, першым знаёміць беларускага чытача з гэтай загадкавай зоркай, імя якой -- Сяргей Пясецкі.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ.**

*НЕЗВЫЧАЙНЫ БЕЛАРУС XX СТАГОДДЗЯ*

# "БАЦЬКА ГЕНАДЗЬ"

Беларускі вучоны ўдзельнічаў з гэтым дакладам ва ўсесаюзным конкурсе. Уражаны старшыня конкурсу вядомы рускі фальклярыст П.Багатыроў пісаў: "Г.І.Цітовіч спалучае ў сабе якасці кваліфікаванага збіральніка песень і кіраўніка народнага хору, які мае глыбокую навуковую эрудыцыю, шырокі кругагляд; ён здольны прадумана адбіраць для запісу ўзоры, найбольш цікавыя ў навуковых і каштоўныя ў мастацкіх адносінах, па-майстэрску валодае тэхнікай слыхавога музычнага запісу, з-за чаго яго запісы ўяўляюць выключную мастацкую вартасць".

Па ўласнай просьбе, каб мець магчымасці для збіральніцкай дзейнасці, Цітовіч вызваляецца ад чыноўнай пасады (да якой так імкнуцца многія сучасныя культработнікі з-за няздольнасці творчай дзейнасці) і становіцца кансультантам. Фальклорныя экспедыцыі, кансультацыі і творчая дапамога спевакам, кампазітарам, музыкам, фальклорным калектывам, самадзейным хорам, выступленні з дакладамі і лекцыямі, рэдагаванне навуковых прац і рэпертуарных і фальклорных зборнікаў, прапаганда фальклору праз радыё і тэлебачанне -- гэта толькі частка ўсёй той велізарнай працы, якую пачаў весці з гэтага часу і да канца сваіх дзён вёў выдатны фальклярыст-практык Генадзь Цітовіч. Як нам не хапае яго ў наш час! Але пра такіх людзей не гавораць, што ён быў: ён з намі ў яго працах.

У канцы 1947 года адзін з лепшых фальклорна-этнаграфічны гурт Вялікага Падлесся зноў (дарэчы, ён быў там адзіным непрафесійным калектывам) прадстаўляе Беларусь у Маскве: ён выступае ў Канцэртнай зале імя Чайкоўскага, Маскоўскай кансерваторыі, на плошчах і ў прыгарадзе. Дарэчы, тады пачалося знамянальнае будучае творчае пабрацімства калектыву з хорам імя Пятніцкага (пазней апошні выступіць у вёсцы Вялікае Падлессе).

Красамоўным для разумення творчай асобы Цітовіча быў 1948 год, калі яго прызначылі кіраўніком прафесійнага ансамбля песні і танца ў Маладзечна. Калектыў быў створаны на аснове маладзечанскага і мазырскага партызанскіх ансамбляў -- прадстаўнікоў дзвюх розных спеўных культур. Беспаспяхова паспрабаваўшы аб'яднаць неаб'ядноўваемае, Цітовіч вярнуўся ў Баранавічы і заняўся папярэдняй працай, моцна пасябраваў з самабытным калектывам вёскі Азершчына Рэчыцкага раёна, яе таленавітым кіраўніком Таццянай Лапацінай. Дачка выдатнага спевака Карнея Лапаціна наспявала яму з калектывам такія выдатныя песні, як "Зялёны дубочак", "Вячэрняя зара ўзышла", "Як пагнала бабуленька куранятак пасці" і іншыя. Абодвум гэтым таленавітым людзям у 1949 годзе прысвоілі званне заслужаных дзеячаў мастацтва Беларусі.

У адрозненне ад сучасных фальклярыстаў-музыказнаўцаў, якія стаяць за "калекцыяніраванне", "кансервацыю", "самаразвіццё" фальклору, Цітовіч заўсёды быў актыўным удзельнікам творчай практыкі: даследчыкам, кансультантам, у межах магчымага рэдагаваў, апрацоўваў, выбіраў найбольш дасканалыя мастацкія творы, каменціраваў, тлумачыў і дапамагаў прыгожа перанесці іх на сцэну так, каб не абламаць жывых парасткаў іх самабытнасці. Ён не цураўся такіх сучасных твораў, як, напрыклад, запісаная ў вёсцы Блізная на Ружаншчыне "Із далёкіх, із краёў", арганічна зніставаная з традыцыяй воінскіх песень. У інтэрпрэтацыі Цітовіча песня папулярная да нашага часу. Гэта быў шчыры і высокаадукаваны дарадца для сваіх малодшых сяброў -- музыкаў і спевакоў, якім так не хапала ведаў і вопыту. Лагічным завяршэннем яго працы станавіліся даклады і артыкулы "З вопыту творчага вывучэння сучаснай народнай песні", "Народная песня ў сучасным быце беларусаў", зборнікі "Беларускія народныя песні", "Песні шчасця", "Песні беларускага народа".

Навуковая дзейнасць і творчая практыка Рыгора Шырмы, Генадзя Цітовіча аб'ектыўна і заканамерна падвялі іх да стварэння на пачатку 50-х гадоў двух прафесійных форм інтэрпрэтацыі народнай песні на сцэне -- акадэмічнай і народна-харавой.

Рыгор Шырма зрабіў звышзадачай "простую сялячачку, беларускую народную песню, вывесці ў людзі і зрабіць дамай высокага культурнага свету", а Генадзь Цітовіч стаў працаваць над перанясеннем народнай песні на прафесійную сцэну ў яе натуральным выглядзе без змены формы гукаўтварэння. Абодва дасягнулі сваіх высакародных, агульнанацыянальнага значэння мэт і цяпер іх імёны залатымі літарамі годна ззяюць у назвах Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Беларусі імя Рыгора Шырмы і Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Генадзя Цітовіча.

**Васіль ЛІЦЬВІНКА.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 22, 25 —26.**

**НА ЗДЫМКУ: Генадзь ЦІТОВІЧ -- кіраўнік фальклорнага калектыву вёскі Вялікае Падлессе.**



# "ПАСЫЛАЮ ВАМ КАРТАЧКУ..."

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Звярнуўся ў Маскву да слыннага гісторыка Мікалая Мікалаевіча Улашчыка, які плённа пачынаў некалі, у маладыя гады, сваю працу ў Мінску, а потым не па сваёй ахвоце апынуўся за межамі Беларусі. Той адпісаў (пісьмо 1972 года ў стылістыцы і арфаграфіі захоўвае штосьці ад 20-х гадоў):

"Васілеўскага я ведаў, але здалёк, калі быў студэнтам (а пасля таго на Беларусі ўжо наогул не жыў). Ведаю, што ён працаваў у Оршы, адкуль і прысылаў свае артыкулы ў "Полымя". Л. Аляксееў (аўтар "Полоцкой земли") казаў, што нешта гадоў 10 назад Васілеўскі прыслаў у Віцебскі музей ліст. Свой адрас ён напісаў толькі на канверце, а канверт выкінулі. Калі схамянуліся і пачалі шукаць, то нічога ня знайшлі. Прабавалі ўспомніць, пісалі ў розныя месцы, але так і ня знайшлі. Зараз яму павінна быць пад 80".

Ужо ж які дасведчаны наш даследчык Янка Саламевіч, але і той у артыкуле пра Васілеўскага, напісаным у 1984 годзе для "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі", закончыў сваю інфармацыю 1932 годам і далей паставіў пытальнік.

Але надышла эпоха галоснасці, разгарнулася дзейнасць шматлікіх "Мемарыялаў", на грамадства наша абрынулася лавіна новай, часта вельмі балючай інфармацыі. Звязваюцца разарваныя ніці, узнаўляюцца страчаныя сувязі пакаленняў. У 1990 годзе чытаю ў "Полымі", у раздзеле "З рэдакцыйнай пошты", кароткае пісямко:

"Дарагая рэдакцыя!

Піша вам масквічка... Неспагадны да нашай сям'і лёс. Мой бацька, Даніла Мінавіч Васілеўскі, у 1936 годзе быў рэпрэсіраваны як "буржуазны нацыяналіст". Мне было тады ўсяго чатыры годзікі. Вельмі рэдка даходзілі да нас весткі з далёкай Варкуты, куды адправілі тату сталінскія сатрапы. Мы з маці вельмі гаравалі па бацьку і ў 1945 годзе паехалі да яго. Тата быў вельмі хворы, але стараўся не паказваць гэтага. Ён чытаў нам паэму "Тарас на Парнасе", апавядаў пра... часопіс "Полымя", у якім друкаваў да арышту свае творы... Успамінаў сваю родную Беларусь, блізкіх і знаёмых людзей. Мусіць, бацькава любоў перадалася і мне. Я радуюся, пачуўшы беларускую песню, беларускае слова...

З павагай --

А. Васілеўская, г. Масква".

Ясная рэч, гэта дачка чалавека, з якім перакрыжаваліся мае даследчыцкія пуцявіны. Расстараўся ў "Полымі" адрасок, напісаў Але Данілаўне ліст, просячы дадатковых звестак пра Данілу Мінавіча. А можа, пытаюся, захаваліся якія ягоныя рукапісы, здымкі. Не помню -- адразу ці неўзабаве -- паслаў сваю кніжку "Разыскивается классик...", дзе ёсць некалькі старонак і пра Васілеўскага. Помню толькі, што мы паспелі абмяняцца ўжо некалькімі пісьмамі, пакуль бандэроль з кнігай была ў дарозе. Ала Данілаўна аказалася чалавекам эмацыянальным. І пяро ў яе лёгкае, шпаркае (дачка літаратара). Адначасна шануе дакладнасць. Дзе не ўпэўнена -- ставіць пытальнікі. Яе пісьмы цытую ў перакладзе. Праўда, часам яна любіць, вельмі дарэчы, ужыць беларускае слоўка -- у перакладзе гэтая сімпатычная адметнасць губляецца. Апускаю першапачатковыя словы падзякі за памяць пра дарагога ёй чалавека. Дык вось у 1945 годзе пасля доўгай разлукі некалі шчаслівая сям'я зноў аб'ядналася ў Варкуце. Маёй карэспандэнтцы тады было 13 гадоў. За плячыма арышт бацькі, адчужэнне былых сяброў сям'і, вайна, эвакуацыя. Пра далейшае паступова, ад пісьма да пісьма, расказвала Ала Данілаўна. І не толькі пра далейшае -- прыводзіла аповяды і ўспаміны сямейнікаў, фамільныя паданні. Словам, матэрыялу на цэлы раман. Раман або драма жыцця беларускай інтэлігентнай сям'і нашай складанай эпохі.

"...Мы не вярнуліся з Варкуты на Беларусь з-за здароўя бацькі. Ён быў вельмі хворы. Склероз сасудаў галаўнога мозга. Марыў пра сваю кафедру, не ацэньваў, што прайшло 20 гадоў ("якая кафедра?!" -- казала маці). Павезлі мы бацьку ў Феадосію, дзе ў сваякоў быў дом, каб ён заняўся чымсьці ("там генуэзскія крэпасці -- няхай ходзіць -- капаецца"). І ён сапраўды захапіўся, ды нядоўга працягваўся гэты шчаслівы час. Захварэў канчаткова, 6 гадоў быў паралізаваны, мы не паехалі нікуды, а глядзелі з маці за ім. Я прыехала туды рабіць урачом. А калі тата памёр (у снежні 1963 г.), мы перабраліся з маці ў Маскву, дзе я атрымала кватэру і працу (псіхіятр у 13-й псіхіятрычнай бальніцы)... Маці таксама ўжо няма.

Я рада б прыслаць усё, што заўгодна, але ўсё аддала ў "Мемарыял" тут і ў Варкуце. Думаю, што з "Мемарыяла" ў Маскве можна перавезці ў "Мемарыял" Беларусі татаву справу. Або копію яе. Няшмат там. Але ўсё, што ў мяне было. Каштоўная кніга аб краязнаўстве з фатаграфіямі краязнаўцаў БССР I з'езду. Мне думаецца, што яна больш важная на Беларусі, як тут.

Чаму аддала сюды ўсё? Многа пісала на Беларусь, але ніхто не адгукнуўся, а я хацела захаваць хоць што-небудзь аб сваім бацьку. "Мемарыял" прыняў мяне з разуменнем, і я аддала ўсё, што ў мяне было, бо род майго бацькі на мне спыніўся. Я хварэла, баялася, што не паспею перадаць у надзейныя рукі хоць крупінкі памяці аб бацьку..."

Пра тое, чым я тады захапляўся, -- ананімныя паэмы, дзівосны, непаўторны "Тарас" -- у пісьме было няшмат, тым не менш завочнае знаёмства з Алай Данілаўнай аказалася надзвычай плённым. Мне не толькі адкрыўся лёс знакамітага краязнаўца -- давялося яшчэ раз задумацца над перыпетыямі складанай айчыннай гісторыі, дакрануцца да журботных старонак агульнанароднай драмы:

"Што я ведаю аб "Тарасе на Парнасе" -- што за гэтую паэму бацька сядзіць ("буржуазны нацыяналіст"). Часам яны з мамай чыталі асобныя строфы па-беларуску. Я ж помню толькі радкі аб дзеўцы Гебе і яшчэ штосьці.

Здаецца, быў спектакль маляўнічы (мабыць, маецца на ўвазе опера М. Аладава "Тарас на Парнасе", 1927. -- **Г.К.**), бо бацькі гэта ўспаміналі. Бадай, усё, што ведаю. Ён мала гаварыў пра тое, што баліць.

Часам гаварылі пра Янку Купалу і Якуба Коласа. Хтосьці з іх нават у доме ў нас быў у Віцебску...

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**(Працяг будзе).**

# СУВЕРЭНІТЭТ БАРОНЯЦЬ... КАЛЕКЦЫЯНЕРЫ

**Уладзімір Цярохін -- з атрада беларускіх прадпрымальнікаў. Але гэтая акалічнасць зусім не сведчыць пра тое, што кіраўнік малога прадпрыемства "Агул" грабе грошы лапатай, а хутчэй... Словам, шмат часу свайго і шмат невялікіх капіталаў сваіх Уладзімір Цярохін аддае справе беларускага адраджэння. Пра адзін з важкіх канкрэтных крокаў мінскага прадпрымальніка і пойдзе наша размова.**

*-- Уладзімір, даўно назіраю за сапраўды самаахвярнай справай, якую распачаў ты ці не з 1990 года... Маю на ўвазе, канешне, газету "Беларускі калекцыянер". З чаго ўсё пачыналася?*

-- З першага нумара... Спярша разам з аршанскім сталяром Алесем Сярожкіным наважыліся выдаваць газету як орган арганізацыйнага камітэта па стварэнню Беларускага саюза калекцыянераў. Ды з часам упэўніліся, што стварэнне сур'ёзнай арганізацыі -- нам не пад сілу. Таму і абмежаваліся выданнем аднае толькі газеты. І ўжо першыя выпускі "Беларускага калекцыянера" паказалі, што мы на правільным шляху. Газета, нягледзячы на невялікі наклад -- 900 асобнікаў, -- сталася выданнем, добра вядомым не толькі на Беларусі.

*— Няўжо сціплае, накшталт шматтыражнай газеты выданне змагло патрапіць за межы Беларусі?..*

-- Дзівіцца тут няма чаму. Трэба ўлічыць спецыфіку нашага "Беларускага калекцыянера". Да таго ж першыя нумары самахоць рассылалі па незнаёмых спачатку адрасах замежных суайчыннікаў. Так склаліся неблагія стасункі з беларускай эміграцыяй. Як да прыкладу, з Багданам Паукам з Чыкага, з Алесем Алехнікам з Аўстраліі, з вядомым даследчыкам беларускай мінуўшчыны Вітаўтам Кіпелем, з Гаем Пікарда з Вялікабрытаніі. Дарэчы, відавочна па ўсім, газеты, якія мы дасылалі гэтым людзям, станавіліся ці прадметам калектыўнага чытання, ці, магчыма, размнажаліся асобныя публікацыі "БК" на ксераксе.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

## УСЕБЕЛАРУСКІ ФЕСТЫВАЛЬ У АЎЦЮКАХ







**Дзіўна, але факт: на Беларусі ў гэты час, калі людзям не да смеху, нарадзілася новае свята. Прайшло яно ў вёсках Вялікія і Малыя Аўцюкі на Гомельшчыне і называлася так: "Усебеларускі фестываль гумару "Аўцюкі-95". А калі свята, то і госці. Да аўцюкоўцаў прыехалі аматары жарту з Расіі, Украіны, Літвы і Балгарыі і дэлегацыі з усіх абласцей Беларусі. І, вядома ж, сабраліся практычна ўсе жыхары бліжэйшых Мазырскага і Калінкавіцкага раёнаў.**

**Жыхары Аўцюкоў па сваіх adносінах да гумару нечым падобныя да балгар-габраўцаў, але гумар іх спрадвечна беларускі, палескі, дабрадушны. Такім дабрадушным атрымаўся і першы Усебеларускі фестываль гумару "Аўцюкі-95". У яго праграме былі агляды прысядзібных гаспадарак з дэгустацыяй палескіх закусак, конкурсы анекдотаў, частушак, баек.**

**Свята гумару будзе помніцца яго ўдзельнікам доўга. Тут панавалі весялосць, смех, жарты і прыгаворкі. Будзем спадзявацца, што свята ў Аўцюках стане традыцыйным, а самі Аўцюкі -- міжнародным цэнтрам смеху. Здаровага смеху.**

**НА ЗДЫМКАХ: агляд-конкурс падворкаў і маёнткаў; пісьменнік Уладзімір ЛІПСКІ, адзін з арганізатараў фестывалю, моцна трымаў у руках лейцы ў розных журы конкурсаў; адно з імгненняў фестывалю гумару "Аўцюкі-95".**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

# СУВЕРЭНІТЭТ БАРОНЯЦЬ... КАЛЕКЦЫЯНЕРЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

Бо ад нумара да нумара мы набываем усё новых і новых карэспандэнтаў.

*-- Уладзімір, але "Беларускі калекцыянер" -- гэта ж не выданне, разлічанае выключна на замежжа?..*

-- Безумоўна, не. Увогуле пра нейкую ўнутраную ці знешнюю арыентацыю і гаварыць не варта. Справа ў іншым. Газета створана дзеля пашырэння беларусікі ва ўсіх галінах і разгаліноўваннях калекцыяніравання. І мы толькі рады, калі цікаўнасць да беларускай пошты ці беларускай фалерыстыкі прачынаецца, праяўляецца ў прадстаўнікоў іншых народаў.

І тут хацелася б заўважыць адну вельмі істотную, на мой погляд, рэч. Такімі выданнямі, як "Беларускі калекцыянер", проста абавязана апекавацца дзяржава. І нават у большай ступені -- дзяржава маладая, чым сталая. Развіваючы ў насельніцтва прагу да збору беларускіх калекцый, дзяржава выхоўвае пачуццё нацыянальнай годнасці, спрыяе ўмацаванню суверэнітэту і незалежнасці.

*-- Дарэчы, ці валодаеш ты інфармацыяй пра выданні, падобныя "Беларускаму калекцыянеру", у іншых рэгіёнах былога СССР?*

-- У Латвіі выходзіць газета "Калекцыянер Латвіі". У Эстоніі -- цудоўны часопіс "Эстонскі калекцыянер", а яшчэ газета і асобны часопіс для філатэлістаў. Літва таксама выдае свой часопіс для калецыянераў. Украіна -- філатэлістычны часопіс. І літаральна ўсюды праяўляецца дзяржаўная заклапочанасць у стварэнні перыёдыкі для калекцыянераў.

*-- Чым цікавая ваша газета аматарам беларускай мінуўшчыны?*

-- Ужо з першага нумара "Беларускі калекцыянер" зацвердзіў сябе як выданне, на мэце ў якога -- сур'ёзны зварот да беларускай гісторыі. Але ж разам са сваімі аўтарамі робім мы гэта праз прызму калекцыйных зацікаўленняў. У прыватнасці, у 1990 годзе "БК" змясціў артыкул Язэпа Барэйкі "425-я ўгодкі беларускай пошты". Аўтар даследавання звяртае ўвагу на этапы ў развіцці беларускай пошты. Шкада, што гэты артыкул так і не стаў штуршком для сур'ёзнай увагі да гісторыі аднаго з важных дзяржаўных інстытутаў. Увагі -- з боку найперш самой жа дзяржавы.

Пачынаючы з першых нумароў, адным з самых актыўных аўтараў "БК" з'яўляецца вядомы беларускі філатэліст Леў Коласаў. Праўда, піша даследчык і калекцыянер-практык не толькі па паштовай праблематыцы. Адзін з цікавых артыкулаў Л. Коласава -- "Кальшарскія боні "кігілкі". А надрукаваны былі тыя грошы-"кігілкі" ў 1918 годзе ўправай яўрэйскай грамады "Кагал" -- у мястэчку Кальшкі Віцебскай акругі.

З цікавых артыкулаў -- і даследаванне Міхася Верацілы "Беларускія манетныя двары". Аўтар дапамагае чытачу зрабіць адметнае падарожжа ў мінуўшчыну Бярэсця, Гародні і Полацка. Да артыкула пададзены выявы шасцігрошовіка 1706 года (адчаканены ў Гародні), шэлега ВКЛ (адчаканены ў Бярэсці), талера 1793 года (адчаканены ў Гародні).

*-- Уладзімір, а што ў планах "Беларускага калекцыянера"? Якім будзе новы нумар?*

-- Давайце пагартаем матэрыялы, што месцяцца, так бы мовіць, у рэдакцыйным партфелі "Беларускага калекцыянера". Грунтоўнае даследаванне прапаноўваюць чытачу Юрка Васілеўскі і Алеся Сёмуха. Прадмет іх зацікаўленняў -- гісторыя серыі марак "Беларусь. Пошта". Упэўнены, што нават знаўцы філатэлістычнай гісторыі Беларусі знойдуць у працы Ю. Васілеўскага і А. Сёмухі шмат цікавага. Гісторык-архівіст Віталь Касмылёў расказвае пра ўзнагароды, якія мелі хаджэнне ў войску Тадэвуша Касцюшкі... Ёсць у нас і шмат іншых цікавых матэрыялаў. Застаецца пашкадаваць, што "Беларускі калекцыянер" з-за матэрыяльных цяжкасцяў не мае шанцаў на частыя сустрэчы з чытачом.

*-- А якім чынам можна стаць сталым чытачом "Беларускага калекцыянера"?*

-- Як толькі аддрукоўваецца тыраж чарговага нумара "БК", адразу ж распаўсюджваем яго праз кіёск ТБМ імя Ф. Скарыны (адрас: Мінск, праспект Ф. Скарыны, 20). Так што не спяшайцеся прайсці ўзбоч. І будзьце ўпэўнены: не пашкадуеце.

**Гутарыў Алесь МІРШЧЫНА.**

## ХОР ВІКТАРА РОЎДЫ ПАКАРЫЎ МАЛДАВАН

Гран-пры і першае месца за выкананне абавязковай праграмы на малдаўскай мове заслужылі выхаванцы Віктара Роўды на першым Міжнародным конкурсе студэнцкіх хароў, які праходзіў у Кішынёве ў апошніх чыслах чэрвеня.

Віктар Роўда, які быў членам журы, расказвае:

-- Састаў удзельнікаў конкурсу быў прадстаўлены харавымі калектывамі з Украіны, Расіі, Малдовы, Румыніі па наступных намінацыях: камерныя, жаночыя і змешаныя хары. Мы выступалі ў апошняй групе, і нашымі сапернікамі былі вядомыя малдаўскія калектывы з Акадэміі музыкі і Інстытута культуры Кішынёва. Не хацелася б хваліцца, але яшчэ да конкурснай праграмы ў папярэдніх канцэртах, якія праходзілі ў памяшканні народнага музея і ў малой зале Кішынёўскай філармоніі, па рэакцыі слухачоў можна было меркаваць аб вялікім поспеху нашага калектыву ў радавых аматараў музыкі, -- сказаў маэстра.

Паводле яго слоў, перамогу на конкурсе прадвызначыла і рэалістычная манера выканання музычных твораў, заснаваных на меладызме і чысціні вакальнай тэхнікі. "Я ні ў якім разе не прыніжаю выканальніцкіх і вакальных заслуг усіх астатніх удзельнікаў, -- заўважыў В.Роўда, -- проста наш стыль аказаўся лепшым".

-- Якія планы ў калектыва на будучыню?

-- Спадзяюся, што наш студэнцкі хор у наступным годзе адправіцца ў Грэцыю на Міжнародны фестываль харавых спеваў. А ў Малдове нас з нецярпеннем чакаюць на наступны конкурс, які адбудзецца праз два гады.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77).
Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 2569.
Падпісана да друку 17. 7.1995 г.